2 лістапада 2018 | № 40 (603)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Ксенафобія захапіла Брытанію
Стар. 9



4 АДНА КРАІНА – ДЗВЕ ДЗЯРЖАВЫ

Згодна з Канстытуцыяй, адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў Беларусі з'яўляецца народ. Аднак большасць беларусаў нават не здагадваецца, што з'яўляюцца носьбітамі дзяржаўнай улады

5

«ФЕМІНІСТКІ НЕ СТАНУЦЬ БЕГАЦЬ ЗА ТАБОЙ З СЯКЕРАЙ»



6–7 ВАНДЭЯ Ў ДЗЕЯННІ: ДЗЯДЫ–1988

Непрыемным сюрпрызам для кіраўніцтва БССР стала публікацыя ў агульнасаюзнай «Литературной газете» артыкула, пра падрабязнасці падзей 30 кастрычніка, замоўчаныя беларускімі СМІ

11–12

БЕЛАРУСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА: ПЕРАРВАНЫ ШЛЯХ ДА АЎТАКЕФАЛІІ



# Ці варта ўсім падабацца коштам суверэнітэту краіны?



Сяргей ПУЛЬША

«Ты што ж, самазванец, казённыя землі разбазарваеш! Такім чынам ніякіх валасцей не напасешся!» — менавіта гэтую фразу Жоржа Міласлаўскага з фільма «Іван Васільевіч мяняе прафесію» інтэрнэт згадвае на адрас Аляксандра Лукашэнкі.

Згадка пра разбазарванне казённых земляў выкліканая апошнімі заявамі кіраўніка Беларусі. Падчас сустрэчы Уладзіміра Пуціна ў Магілёве на V форуме рэгіёнаў Беларусі і Расіі Лукашэнка сказаў, што Магілёў — «горад больш рускі, чым беларускі», «кавалак, можна сказаць, рускай зямлі», бо мяжуе з Расіяй.

Можна было б, як звычайна, спісаць гэтую фразу на традыцыйнае паддобрыванне Лукашэнкам Пуціна. Але ўжо праз два тыдні, у час сустрэчы з Пятром Парашэнкам у Гомелі, беларускі кіраўнік кажа, што Гомель нічым не адрозніваецца ад гарадоў Украіны: «Вы, напэўна, адчуваеце, што ён нічым не адрозніваецца ад выдатных украінскіх гарадоў. Гэта натуральна, бо да мяжы тут літаральна рукой падаць. Тут вельмі шмат жыве украінцаў, грамадзян Украіны (асабліва ў апошні час), якія ў сувязі з канфліктам перасяліліся сюды».

Гэта і прымусіла беларускіх грамадзян узгадаць Міласлаўскага.

Зразумела, кожнаму чалавеку хочацца падабацца — тым больш, падабацца сваім партнёрам. І Аляксандр Рыгоравіч тут не выключэнне. Аднак Лукашэнка — не проста чалавек, ён кіраўнік дзяржавы. І яго выказванні пра Магілёў і Гомель успрымаюцца менавіта як «разбазарванне земляў».

У сувязі з гэтым перад кіраўніком знешнепалітычнага ведамства Беларусі Уладзімірам Макеем стаіць складаная задача. Яму трэба патлумачыць кіраўніку дзяржавы, што, канешне, такімі выказваннямі ён можа спадабацца сваім суседнім калегам. Але гэтае «падабанне» не будзе павагай. Бо не можа выклікаць павагу кіраўнік дзяржавы, які направа і налева гатовы раздаць сваю краіну — а менавіта так успрымаюцца словы Аляксандра Рыгоравіча.

І лепш, канешне, павага, чым падабанне без павагі.

Праўда, Макею давядзецца тлумачыць гэта не аднаму Лукашэнку. Віцэ-прэм'ер, міністр рэгіянальнага развіцця, будаўніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі Украіны Генадзь Зубко на форуме рэгіёнаў Беларусі і Украіны ў Гомелі звярнуўся да беларускіх удзельнікаў мерапрыемства з прапанова выступаць на беларускай мове. Сам Зубко гаварыў па-ўкраінску. А вось беларускія чыноўнікі працягвалі размаўляць па-руску.

У адказ не хто-небудзь, а міністр інфармацыі Аляксандр Карлюкевіч зазначыў, што ў Беларусі дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і руская, і кожны сам абірае, якою карыстацца.

Калі ў нас дзве мовы, то чыноўнік і павінен ведаць іх дзве, ці не так? Калі госць просіць размаўляць па-беларуску, чаму б нашым урадоўцам не задаволіць яго просьбу? Мы ўсе ведаем, што чыноўнік абавязаны даваць адказ на той мове, на якой паступіў запыт. Запыт Зубко быў на беларускую мову. Калі нашы чыноўнікі працягвалі размаўляць па-руску, то, па-першае, яны прадэманстравалі «павагу» да свайго нацыянальнага. Па-другое, калі яны не ведаюць дзяржаўнай мовы — гэта ўжо кажа пра іх прафесійную прыдатнасць.



Зразумела, на ўсё выкладзенае вышэй можна адказаць: «Што вы чапляецеся да словаў?» Ну, ляпнуў кіраўнік дзяржавы нешта. Прызвычаіліся мы ўжо да яго славеснай эквілібрыстыкі і да падобных выказванняў... Не ў першы раз і не ў апошні...

У тым і справа. Пазаўчора Аляксандр Лукашэнка кажа, што Магілёўшчына — руская зямля. А ўчора (умоўна ўчора, канешне) Мінабароны Расіі заявіла, што мае намер «разгарнуць найноўшыя комплексы радыёэлектроннай барацьбы «Самарканд» на стратэгічных кірунках, у 13 ваенных частках у Архангельскай, Калінінградскай, Маскоўскай, Мурманскай, Ніжагародскай абласцях, Краснадарскім і Прыморскім краі, Яўрэйскай аўтаномнай вобласці і ў Беларусі».

> **Са сцвярджэння «Данецк — рускі горад» пачалася ўся завaруха на Данбасе**

Прычым, я не памятаю, каб праходзіла інфармацыя, што расійскае ваеннае ведамства неяк запыталася ў беларускіх вайскоўцаў (і не толькі вайскоўцаў), на якіх умовах яны прымуць гэтыя комплексы, дзе іх размесцяць, што нам за гэта будзе, будзе гэта расійскай базай альбо нам гэтыя комплексы ў арэнду дадуць... Нас не спыталі, і нават не «паведамілі», а адразу абвясцілі і паставілі перад нібыта вырашаным фактам: мы разгорнем комплексы РЭБ на вашай тэрыторыі. Усё. Кропка.

А чаго саромецца, калі Магілёў — гэта «кавалак, можна сказаць, рускай зямлі»? І мова дзяржаўная ў вас руская... Дык прымайце, рабяты, рускую зброю! Ці не гэта вынікае са словаў Лукашэнкі пра «рускі Магілёў»?

Менавіта са сцвярджэнняў, што «Данецк — рускі горад», пачалася ўся завaруха на Данбасе. Нам такое трэба?



# Ці «пазелянее» Гродна пасля візіту Лукашэнкі?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Апошні прыезд кіраўніка дзяржавы ў Гродна не запомніўся ніякімі рэзкімі выказваннямі ды кадравымі прызначэннямі. Затое Лукашэнка нечакана папракнуў гарадскія ўлады ў адсутнасці ў горадзе зеляніны... Сапраўды, а куды яна падзелася?**

Яшчэ гадоў 20 таму Гродна лічыўся самым зялёным горадам Беларусі. Парк Жылібера ды Каложскі, даліна Гараднічанкі, некалькі лесапаркаў у крокавай даступнасці ад цэнтру, безліч прысадаў ды сквераў... Прыгажосць! Варта адно глянуць фота ды паштоўкі з 1980–1990-х гадоў.

Сітуацыя пачала змяняцца ў часы «губернатарства» Уладзіміра Саўчанкі: пад маркай рэканструкцыяў ды будоўляў зносілі і старыя дамы, і старыя дрэвы. Апошнімі статуснымі ахвярамі зелянгасу апынуліся каштан Элізы Ажэшкі ды найстарэйшы ў горадзе ясень, які памятаў часы Рэчы Паспалітай... Іх не пілавалі па-жывому: знакавыя дрэвы наўпрост не лекавалі, а ў выпадку з каштанам падрубілі карані, а пасля ўжо ўзяліся за бензапілы. Навошта?

Самае цікавае, што пасля крытыкі з боку Лукашэнкі ўжо загучалі галасы чыноўнікаў: маўляў, мы, канешне, азяленім, але трэба закупляць абсталяванне. Нагадаем, што ў 2013 годзе, да прыкладу, быў закуплены «Вялікі Джон» — канадская махіна, якая можа перасаджваць дарослыя дрэвы. Пра закупку пратрубілі ўсе СМІ, і гэта нядзіўна: «Джон» — зусім не танная цацка. Дзе машына зараз і чым яна займаецца? Адзін Бог ведае. Але чыноўнікі хочуць купляць новую тэхніку...

А што з пітомнікамі дрэваў? Зелянгас сёння з'яўляецца маналістам у плане продажу дзікіх саджанцаў. А вось і адказ на пытанне, навошта пілаваць старыя дрэвы, саджаючы на іх месца дубчыкі, з якіх прыжываецца добра калі палова. На старых дрэвах нічога не заробіш, абароту не будзе. А пілуючы старыя і саджаючы новыя, якія паміраюць, а пасля на іх месца саджаючы наступныя, можна забяспечыць добры абарот.

Стары пітомнік каля КСМ на Дамброўскага сёння наўпрост закінуты: клёны перараслі крытычны ўзрост і не прыдатныя для перасадкі — ну, бывае. У Румлёва рыхтуецца рэканструкцыя «азотаўскага» закінутага моста. Побач з ім — дубовы гай (дрэўцы па 15–20 гадоў), які тую рэканструкцыю наўрад ці перажыве. А вось і праца для «Вялікага Джона»: бярыце, перасаджвайце ў горад — і выдаткаў мінімум. Ці скарыстаюцца гэтым чыноўнікі? Зарабіць жа асабліва не атрымаецца...

У раёне Вішнявец за апошнія гадоў шэсць працэс высадкі дрэўцаў паўтараўся разы тры. Пасадзіць дрэвы які-небудзь БРСМ з барабанамі і гучнымі лозунгамі, пасля касцы падсякаюць кару, дрэвы сохнуць, іх прыбіраюць, і ўсё паўтараецца наноў... І так да бясконцасці. Цыкл складае ў лепшым выпадку 2–3 гады.

Зеляніна — гэта не толькі дрэвы, але і трава. Штогод, пачынаючы ад мая, у нас «батальёны ў бой ідуць», голяць усю траву ў горадзе пад нуль. Трава праз гэта непазбежна дэградуе, а зялёныя лапікі зямлі патроху з газону пераўтвараюцца ў дываны, парослыя мохам, — толькі мох у такіх умовах і можа выжыць.

Цікава, дарэчы, колькі паліва ідзе на грандыёзныя пакосы? Колькі грошай на заробкі касцам? Ну і на новыя косы і дэталі да іх, канешне... Гадоў з дзесяць таму справа папахвала крыміналам праз завышаныя нормы паліва, нямэтавае выкарыстанне і г.д. Зараз, здаецца, усё сціхла, але ці знікла сама праблема?

Зразумела, што ўсе гэтыя рухі — выкасы, пасадкі і прыборкі дрэваў — абумоўлены ведамаснымі інтарэсамі. Гэта грошы на паліва, тэхніку, заробкі, транспарт і г.д. Але навошта тады казаць, маўляў, мы спрабуем эканоміць бюджэтныя сродкі? І навошта чакаць нейкага выніку, калі кожнае ссохлае дрэва забяспечвае зелянгас працай, а кожнае жывое — робіцца праблемай?

Вельмі хацелася б памыліцца, але і пасля візіту кіраўніка дзяржавы з яго пажаданнямі ўсё застанецца на сваіх месцах. Закупяць тэхніку і саджанцы, пройдуць урачыстыя пасадкі, пра якія напіша «Гродзенская праўда», праз годзік усё ссохне, будзе прыбрана і спалена, каб паўтарыцца яшчэ шмат-шмат-шмат разоў...

# Гоячы раны гібрыднай вайны

Мікалай ДЗЯДОК, Валер ТАМІЛІН

**Стрэлы, выбухі і подых смерці на кожным кроку адгукаюцца рэхам далёка за лініяй фронту і ламаюць не толькі целы, але і псіхіку ўдзельнікаў баявых дзеянняў. Гэтыя траўмы нябачныя, але адбіваюцца на жыцці людзей і грамадства не менш за фізічныя. Хто іх загоіць?**

Бліжэйшы прыклад — вайсковы канфлікт ва Украіне. Мы прывыклі чытаць пра забітых і параненых байцоў, але ўдзельнікі вайны, нават калі застаюцца некранутымі фізічна, атрымліваюць псіхічныя траўмы.

Тое, што на пачатку ўзброенага канфлікту ў Данбасе ўкраінская армія была не ў лепшым стане, — справа вядомая. Але ў такім жа стане былі і службы псіхалагічнай дапамогі байцам. Людзі, якія вярталіся з фронту, не маглі адаптавацца да мірнага жыцця. Гэтаму перашкаджалі не толькі псіхалагічныя, але і сацыяльныя, і бюракратычныя фактары. Нават першыя льготы ўдзельнікам АТА былі дадзеныя толькі ў жніўні 2014 года — праз 4 месяцы пасля пачатку канфлікту.

Доўгі час дзяржава не прызнавала большасць тых, хто вярнуўся з фронту, ветэранамі баявых дзеянняў, што яшчэ больш ускладняла сацыяльную адаптацыю. Газеты пачалі поўніцца загалоўкамі: «Ветэран АТА забіў...», «Ветэран АТА затрыманы...». Сітуацыя пачала змяняцца да лепшага толькі тады, калі пра праблему пачалі казаць грамадскія актывісты і СМІ — традыцыйна моцныя ва Украіне.

Ад пачатку гібрыднай вайны ва Украіне з'явілася мноства арганізацый і людзей, што ставілі сваёй мэтай псіхалагічную дапамогу байцам. Аднак не ўсе яны аказвалі сапраўды сумленную і прафесійную дапамогу. Расказвае дырэктар грамадзянскай арганізацыі «Пабрацім» Арцём Дзянісаў:

— Здараліся выпадкі, калі баец прыходзіў да псіхолага, а першае, што той яму казаў, — не «прывітанне», не «як вас завуць», а «як даўно вы зразумелі, што хворы»? Зразумела, да такога псіхолага ўжо другі раз чалавек не прыходзіў. Больш за тое, заставаліся забабоны ў дачыненні да ўсіх псіхолагаў.

Падобна было і з фінансаваннем. Спачатку жадаючых дапамагчы фінансава было вельмі шмат: і дыяспары, і іншаземныя НДА, і ўрады заходніх краінаў. Але з часам паток фінансавання знізіўся. Зараз удзельнікі «Пабраціма», паводле іх словаў, вымушаныя шукаць грошы пад кожны асобны праект, што займае процьму часу і высілкаў — асабліва калі сутыкаешся з нядобрасумленнымі фундатарамі:

— Бывае, што дамовіўся з донарам, ён ухваліў твой праект, а потым у апошні момант кажа: «Грошай мы вам не дамо». А ў цябе людзі, якім ты паабяцаў... — расказвае адна з арганізатарак «Пабраціма» Івона Косціна.

Арганізатары праекту зрабілі стаўку на тое, каб падрыхтаваць саміх удзельнікаў АТА для аказання дапамогі сваім таварышам па службе. Такім чынам адбываецца памнажэнне ведаў і навыкаў, а людзі пазбягаюць кола залежнасці ад спецыялістаў.

— За час сваёй працы «Пабрацімы» правялі трэнінгі для пераадолення баявога шоку, траўмы і папярэджання посттраўматычнага стрэсавага разладу амаль для ста чалавек — гэтыя людзі самі могуць праводзіць трэнінгі і дапамагаць іншым. На нашых лекцыях пабывалі каля 3500 слухачоў, — кажа Івона.

Яна адзначае, што паток людзей са спадам інтэнсіўнасці вайны на Данбасе не змяншыўся.

— Сфера ветэранскіх спраў адрозніваецца неабходнасцю доўгатэрміновага планавання. Немагчыма задаволіць патрэбу ва ўсіх паслугах за адзін год. У сусветнай практыцы ветэраны звяртаюцца за тымі ці іншымі паслугамі і праз 15–20 гадоў пасля заканчэння службы.

Па тым жа шляху вырашыў пайсці і іншы праект — франшыза «Veterano», якую стварыў ветэран АТА за ўласныя сродкі. Спачатку планавалася адкрыць шэраг піцэрыяў, але цяпер пад гэтай назвай дзейнічае сетка кавярняў, кандытарскіх і таксовак, дрэваапрацоўчая майстэрня, а таксама адмысловы сайт, дзе прасоўваюцца бізнес-праекты іншых ветэранаў па ўсёй Украіне. Да 70% іхных супрацоўнікаў — былыя ўдзельнікі АТА.

Ідэя праекту — не толькі ў тым, каб забяспечыць ветэранаў сродкамі да існавання, але і сацыялізаваць іх, дапамагчы вярнуцца да жыцця ў грамадстве і пазбегнуць мноства псіхалагічных сімптомаў, якія падсцерагаюць людзей, што прайшлі праз экстрэмальныя сітуацыі.

Назіраючы за высілкамі грамадскасці ў галіне ўзаемадапамогі і сацыяльнай падтрымкі, напрошваецца высноva: па канстытуцыі і статуту, вайскоўцы абараняюць дзяржаву. Аднак калі справа даходзіць да абароны саміх вайскоўцаў у штодзённым жыцці, першыя, хто прыходзіць ім на дапамогу, — гэта іншыя грамадзяне.

«Пабрацімы», паводле словаў Івоны, на падтрымку дзяржавы таксама не вельмі разлічваюць:

— Мы працуем у грамадзянскім сектары і не імкнёмся да працы з дзяржаўнымі органамі. Для нас важна мець дыялог з дзяржавай, але ў даванні паслугаў мы хочам заставацца незалежнымі.

Грамадзянская супольнасць можа зрабіць тое, на што няздольныя бюракратыя і вертыкальныя сістэмы. Калі-небудзь гэты факт усвядомяць і беларусы: ніткі сацыяльнай рэчаіснасці — у нашых руках. І што з іх спрадзецца — залежыць толькі ад нас саміх.

# Вядомы кінакрытык выступіў супраць цэнзуры

НЧ

**Кінакрытык і наш аўтар Андрэй Расінскі на сваёй старонцы ў Фэйсбуку надрукаваў зварот да кінаграмадскасці, гледачоў і міжнароднай супольнасці з патрабаваннем скасаваць «цэнзуру кінаненавіснікаў» і адправіць іх «у глыбокую адстаўку».**

У звароце адзначаецца, што «ўсталяванне міністэрскай цэнзуры над Нацыянальным конкурсам "Лістапад" пагражае знішчыць самую буйную міжнародную кінапляцоўку Беларусі. У фестываляў ёсць свае цвёрдыя правілы, і галоўнае з іх — незалежнасць адбору, адмененае міністэрскімі чыноўнікамі. Некампетэнтным чыноўніцам і чыноўнікам, якія ненавідзяць кіно так жа моцна, як і не ведаюць, месца не ў культуры, а ў глыбокай адстаўцы».

Нагадаем, што 23 кастрычніка, падчас прэс-канферэнцыі «Лістапада» стала вядома, што цяпер дырэкцыя фестывалю не будзе прымаць удзел у выбары фільмаў для нацыянальнага конкурсу. Канчатковае рашэнне будзе за камісіяй, на чале якой — першы намеснік міністра культуры Ірына Дрыга.

Пасля гэтага Андрэй Расінскі прапанаваў байкатаваць «Лістапад». Але ў выніку ўдзельнічаць у фестывалі адмовіліся толькі Ева-Кацярына Махава і Дзяніс Пуцікаў — аўтары дакументальнага фільма «Перазімаваць».

Андрэй Расінскі заклікае іншых мастакоў падтрымаць свабоду творчасці і свабоднае кінажыццё ў Беларусі і прапануе ўсім, хто згодны, падпісацца пад яго пастом у каментарах: «Фестывалю — ягоныя паўнамоцтвы, кінематографу — свабоднае развіццё! Не — цэнзуры кінаненавіснікаў! Жыве беларускае кіно!»

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Пад узмоцнены кантроль

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У тых, хто спадзяваўся на «рыначніка» Румаса як прэм'ера, на гэтым тыдні павінны былі знікнуць усе ілюзіі. Нарада Саўміна, падаецца, пахавала ўсе развагі пра «новую плынь» у эканоміцы.**

У прынцыпе, у нас усё нармальна. Рост ВУП, які склаўся па выніках студзенявераснях на ўзроўні 3,7%, прафіцыт рэспубліканскага бюджэту ў памеры 3,38 мільярда рублёў (3,8% да ВУП) дазволілі Беларусі гарантавана забяспечыць выкананне сваіх знешніх пазыковых абавязацельстваў. Экспарт тавараў і паслуг у студзені-жніўні павялічыўся на 18,3% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Рост паставак назіраецца па ўсіх групах тавараў. Сальда знешняга гандлю станоўчае — плюс 580 мільёнаў долараў. Але гэты паказчык на 210 мільёнаў долараў менш, чым за студзень-жнівень мінулага года. У цэлым па выніках студзеня-верасня найважнейшыя эканамічныя паказчыкі знаходзяцца ў рамках прагнозных значэнняў. Тэмп эканамічнага росту за гэты перыяд склаў 103,7% пры прагнозе 103,3% і гэтак далей. Пра ўсё гэта распавядаў Румас.

Аднак ён звярнуў увагу, што да завяршэння каляндарнага года засталося два месяцы. «Патрабуецца прыняцце аператыўных захадаў, каб актывізаваць развіццё эканомікі, не парушаючы яе збалансаванасці». «Стаіць задача да канца года як мінімум утрымаць станоўчыя тэндэнцыі, якія склаліся ў эканоміцы. Ад гэтага залежыць выкананне пяцігодкі. Прашу сканцэнтравацца на канкрэтных захадах, якія дазволяць забяспечыць выкананне задач у бягучым годзе», — сказаў прэм'ер, звяртаючыся да чальцоў урада.

Найперш гэта тычыцца росту цэнаў. У верасні працэс набраў хуткасць і дасягнуў з пачатку года 3,7%, што на 1% больш, чым за такі ж перыяд мінулага года. «Інфляцыя знаходзіцца ў зададзеных параметрах. У верасні адбыўся рэзкі рост на 0,8%, да канца года яшчэ два месяцы. Прашу міністра антыманапольнага рэгулявання і гандлю, усіх кіраўнікоў узяць пад узмоцнены кантроль сітуацыю з цэнамі», — сказаў кіраўнік урада.

У выніку ўзнікае ўражанне, што ад «рыначніка» Румаса не засталося нічога. «Сканцэнтравацца», «узяць пад узмоцнены кантроль», «прыняць аператыўныя захады» — гэта мы чуем, збольшага, ад Аляксандра Лукашэнкі. І ўсё гэта — з разраду ручнога кіравання эканомікай. Але справа ў тым, што ў нармальнай эканоміцы нічога не трэба браць пад «узмоцнены кантроль», і не трэба ніякіх «аператыўных захадаў».

Ніхто не сумняваецца ў тым, што дзяржава павінна рэгуляваць сітуацыю ў краіне. Але рэгуляваць і кіраваць — рэчы розныя.

Я ўвогуле думаю, што некаторыя чыноўнікі ў дзяржаве дзейнічаюць з прынцыпу «чым горш — тым лепш». Напрыклад, з 1 лістапада павышаюцца пенсіі. Яны павышаюцца (афіцыйна) з-за «павышэння агульнага заробку па краіне». Але павышэнне заробку было толькі прагназаванае — па планах урада, у верасні заробак павінен быў перавысіць 1000 рублёў, і таму была думка з гэтай нагоды павысіць пенсіі. Але заробак не вырас, а (сабака такая!) зваліўся. Пры гэтым падняцце пенсій ніхто не адмяніў. Крок, можа, і добры, але далёка не рынкавы.

Цяпер міністр эканомікі Дзмітрый Круты (з таго самага ўраду Румаса) кажа, што ў 2019 годзе сярэдні заробак у Беларусі павінен скласці 1025 рублёў, а ў снежні 2019-га — 1100 рублёў. Чыноўнік дадаў, што заробак работнікаў бюджэтнай сферы, згодна з праграмай урада, павінен складаць не менш за 80% ад сярэдняга па краіне.

**Ад «рыначніка» Румаса не засталося нічога. «Сканцэнтравацца», «узяць пад узмоцнены кантроль», «прыняць аператыўныя захады» — гэта мы чуем, збольшага, і ад Аляксандра Лукашэнкі. І ўсё гэта — з разраду ручнога кіравання эканомікай**

З аднаго боку, Румас змагаецца з інфляцыяй шляхам адміністрацыйнага ціску («узяць пад узмоцнены кантроль сітуацыю з цэнамі»), а з іншага — Круты кажа пра павышэнне заробкаў, што немажліва без інфляцыі. Немажліва — таму што ані Румас, ані Круты не кажуць ні пра прадукцыйнасць працы, ні пра аб'ёмы вытворчасці, ні пра экспарт, ні пра інвестыцыі... То бок, не кажуць пра даходы, якія б дазволілі эканамічна стрымаць інфляцыю і павысіць заробак.

Але ў нас шмат падобных ініцыятыў. Напрыклад, Беларуская рэспубліканская калегія адвакатаў і грамадскі савет пры Міністэрстве ўнутраных спраў спрабуюць забараніць фотаздымкі на вуліцах. Не верыце? Але так яно і ёсць. Гэтыя арганізацыі звярнуліся ў Канстытуцыйны суд. Яны лічаць непрымальнай сітуацыю, калі кожны чалавек мае права здымаць на фота і відэа любога іншага чалавека, які знаходзіцца ў публічнай прасторы, — на вуліцы, у транспарце, на масавай акцыі. Адвакаты лічаць, што публікацыя ў інтэрнэце такіх фота і відэа спалучана «з парушэннем правоў і законных інтарэсаў» грамадзян. Паводле іх трактоўкі, «выкарыстанне выявы грамадзяніна без яго згоды з'яўляецца ўварваннем у яго прыватнае жыццё, а таксама парушэннем права на асабістую таямніцу».

То бок, вы сфатаграфавалі натоўп — і вы ўжо злачынца. Вам трэба было ўзяць дазвол у кожнага з пары тысяч чалавек на публікацыю здымка ў Інстаграм. А грамадскі савет пры МУС дадае яшчэ адну праблему — маўляў, хто заўгодна фатаграфуе супрацоўнікаў міліцыі пры выкананні імі службовых абавязкаў.

Выбачайце, калі міліцыянт саромеецца, што ён міліцыянт, і лічыць ганебным фатаграфавацца ў форме — гэта кажа пра міліцыю больш, чым усе сацыялагічныя апытанкі і сведчанні «высокага даверу грамадзян да міліцыі», размешчаныя на сайце МУС.

Што адказаў заяўнікам Канстытуцыйны суд? «Вы з глузду з'ехалі?». Не, ён прызнаў, што пытанне не ўрэгуляванае належным чынам, і прапануе ўраду падрыхтаваць адпаведны законапраект.

Але ў мяне пытанне. Што мы будзем рабіць з сістэмай відэаназірання, якую, паводле хадайніцтва таго ж МУС, мы стварылі ў краіне? Гэта таксама здымкі, таксама «выкарыстанне выявы грамадзяніна без яго згоды». Мы спачатку выдаткавалі мільёны долараў на гэтую сістэму, а зараз выдаткуем яшчэ мільёны на яе дэмантаж?

З гэтай нагоды... Самым забаўным эпізодам тыдня стаў выпадак, калі начальнік Светлагорскага райаддзела ўнутраных спраў Васіль Гапоненка па плане выйшаў на дзяжурства і спыніў машыну начальніка мясцовага ЛПП — лячэбна-працоўнага прафілакторыя, у якім праходзяць прымусовае лячэнне алказалежныя людзі. Начальнік ЛПП знаходзіўся за рулём п'яны. Такая вось іронія лёсу. У дадзены момант па гэтым факце праводзяцца разнастайныя праверкі. Але сітуацыя стала галоснай нават без здымкаў.

Адразу згадваецца анекдот, як дзіцё патаемна зазірае ў пакой бацькоў і кажа: «І гэтыя людзі забараняюць мне калупацца пальцам у носе?»

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Святлана Алексіевіч



**Нобелеўская лаўрэатка наведала «Ноч расстраляных паэтаў», якая другі год запар праходзіла ў Курапатах. На ноч з 29 на 30 кастрычніка ў 1937 годзе прыпаў пік расстрэлаў нацыянальнай эліты ў Беларусі.**

«Некалькі стагоддзяў наш нацыянальны дух знішчалі самым варварскім спосабам, асабліва ў сталінскі час — знішчалі эліту: літаратараў, навукоўцаў, сельскую інтэлігенцыю. Чорныя раскрытыя дзіркі павінны былі б паглынуць нас, але насуперак усяму мы жывыя. У нас свая краіна, свая мова. Мы жывыя! Але кожны з нас павінен узяць на сябе частку працы зніклых. Прыйдзе час, і мы пройдзем па слядах сталінскіх злачынстваў і паставім там помнікі», — сказала яна.

«У гэтую ноч на гэтым месцы павінны былі б быць сотні тысяч людзей, але нас не так шмат, як хацелася б, — мінулае для многіх яшчэ схавана ў зморку хлусні і спажывецтва. Банальная рэч, калі чуеш ад людзей у сваё апраўданне: я, маўляў, не магу рызыкаваць сваёй працай, сваім поспехам, мяне сістэма тут жа выкіне за борт, а як карміць і вучыць дзяцей, за што? Але нацыянальны дух нельга перавесці ў грошы або кар'еру, калі-небудзь дзеці спытаюць сваіх бацькоў: а дзе наша Беларусь? Дзе наш час? Дзе наша беларуская гісторыя?» — сказала Нобелеўская лаўрэатка.

«Я не веру, што чалавечае жыццё знікае бясследна. Тут нас атачаюць цені лепшых нашых продкаў. Цярпенне — гэта таксама форма ведаў. Нашы продкі, чыё дыханне рассеяная тут, вучаць нас адрозніваць годнасць ад здрады, будучыню ад мінулага», — дадала яна.

## Леанід Кулакоў



**Актывіст «Еўрапейскай Беларусі», удзельнік «Курапацкай варты», падаў заяву ў суд аб спагнанні маральнай шкоды ад наведвальніц рэстарана «Паедзем, паядзім».**

27 чэрвеня на актывіста наехала аўто дзвюх наведвальніц комплексу. Дзяўчына за рулём «Таёты» наўмысна наехала на Кулакова. Прысутныя адзначалі, што дзяўчаты рэагавалі на сітуацыю са смехам. Дзяўчаты ўбачылі, што наехалі на людзей, разгарнуліся і з'ехалі з месца падзей — нават не выйшлі з машыны і не выклікалі медыкаў. Леаніда Кулакова забралі ў шпіталь на «хуткай». У яго быў дыягнаставаны пералом левай рукі.

Раней ён патрабаваў прыцягнуць кіроўцу машыны, 29-гадовую Злату Савоставу, да крымінальнай адказнасці. Аднак УУС Мінаблвыканкама не ўгледзеў у паводзінах з'ехаўшай з месца ДТЗ жанчыны-кіроўцы прыкмет злачынства.

Па юрыдычную дапамогу Кулакоў звярнуўся ў незалежны прафсаюз РЭП да праваога інспектара Леаніда Судаленка, які пракаментаваў сітуацыю: «Віна кіроўцы ўстаноўлена, жанчына прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці. Падкрэсліваю, мы, аўтааматары, не маем права ехаць на чалавека, які стаяў альбо ляжаў перад аўтамабілем. Я дастаткова высока ацэньваю шанцы пацярпелага ў ДТЗ выйграць гэты судовы пазоў». З адказчыцы Кулакоў патрабуе 9 тысяч рублёў.

## Гордзі Дуайер



**Галоўны трэнер мінскага «Дынама» шукае нестандартныя шляхі матывацыі сваіх падапечных. На днях яго клуб пацярпеў 11-ю паразу запар ад «Амура» (3:6) у рэгулярным чэмпіянаце КХЛ.**

У выніку хакеісты і трэнерскі штаб «Дынама» наведалі Мінскі трактарны завод. Праграма стартавала каля дзесяці раніцы ў музеі МТЗ расповедам аб гісторыі МТЗ. Асабліва ўважлівыя апынуліся капітан Сяргей Касціцын, абаронца Дзмітрый Знахарэнка і трэнер Сяргей Стась.

Апроч музею, каманда наведала тры цэхі. Экскурсавод распавядаў, для чаго кожны з іх прызначаны. Работнікі МТЗ перыядычна ўзіраліся ў твары — і, дазнаўшыся, падыходзілі фатаграфавацца. Дынамаўцы, у сваю чаргу, здымалі відэа на тэлефоны.

Можна думаць, што акцыя была скіраваная на «падняцце каманднага духу», але СМІ ахрысцілі яе як «Альбо зайграеце, альбо...»

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Адна краіна — дзве дзяржавы

**Нацыянальныя дзяржавы будуюць не лідары, а нацыі пад кіраўніцтвам лідараў.**



Колькі гадоў беларускай дзяржаўнасці? На думку самой саліднай газеты краіны — чвэрць стагоддзя. Цытую: «У 2019 годзе Беларусь адзначыць знамянальную дату — спаўняецца 25 гадоў інстытуту прэзідэнцтва ў нашай краіне. Юбілейная вяха, несумненна, стане добрай нагодай для палітолагаў, экспертаў-аналітыкаў, журналістаў, дый проста неабыякавых абярнуцца назад і ўспомніць мінулае. <…> Аднак рэтраспектыўны аналіз існавання аднаго з інстытутаў дзяржавы, няхай і найважнейшага, будзе няпоўным без разумення галоўнага. Разумення таго, што, па сутнасці, гаворка ідзе пра чвэрць стагоддзя незалежнай беларускай дзяржаўнасці».

Улічваючы маштаб маючай адбыцца імпрэзы, «СБ» абвясціла пра запуск гістарычнага мультымедыйнага праекта 25.by і адкрыццё цыкла гістарычных публікацый. На момант напісання гэтай «Азбукі» па ўказаным адрасе выявіць актыўнасць палітолагаў, экспертаў-аналітыкаў (і далей па спісе) не ўдалося. Але не варта адчайвацца. Як мухі на мёд, яны зляцяцца ў запланаванай рэдакцыяй колькасці. Так было заўсёды. Так будзе і гэтым разам.

Аддамо належнае ініцыятарам праекта. Яны прадбачылі пярэчанні наконт выбару пункту адліку беларускай дзяржаўнасці і не сталі адмаўляць, што ім вядомая Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце (1990) і наданне ёй статусу канстытуцыйнага закона (1991). «Аднак прыняць — не значыць ЗРАЗУМЕЦЬ. А тым больш ПАБУДАВАЦЬ. Казаць пра ўзнікненне дзяржаўнасці ў тыя гады можна толькі вельмі ўмоўна».

Гэтую ўмоўнасць аўтары праекту тлумачаць глыбокім сацыяльна-эканамічным крызісам. Яны прыводзяць шэраг пераканаўчых прыкладаў, якія пацвярджаюць яго наяўнасць. Такая вось логіка.

Натуральна, у афіцыйна адзіным, а па факце расколатым беларускім грамадстве, на логіку «СБ» тут жа знайшлася логіка апанентаў. Абмяжуюся адным загалоўкам, запазычаным на сайце belaruspartisan.by: «Дзяржава — гэта ён? У свядомасць беларусаў забіваюць новы міф, што быў толькі Лукашэнка, а да яго хаос і варварства».

### Дзясяткі адзінак супраць дзясяткаў тысяч

Але дзе тут нагода для спрэчкі? Пасля распаду СССР, як і ў большасці савецкіх рэспублік, у Беларусі была зроблена спроба пабудаваць нацыянальную дзяржаву заходняга ўзору. Спроба аказалася няўдалай. Складаць персанальны спіс для адказу на класічнае пытанне пра тое, хто вінаваты, думаю, не мае сэнсу. Гэта не азначае, што канкрэтныя палітыкі не здзейснілі канкрэтных памылак. Спіс памылак шырокі, і пад ім да гэтага часу не падведзеная рыса. Любы ахвочы і сёння мае магчымасць папрактыкавацца ў яго папаўненні.

Праблема, аднак, у тым, што для будаўніцтва любога тэхнічна складанага аб'екта патрэбныя не толькі архітэктары і прарабы, але і высокакваліфікаваныя прадстаўнікі масавых рабочых спецыяльнасцяў. І чым больш будзе апошніх, тым лепш. Нацыянальныя дзяржавы будуюць не лідары, а нацыі пад кіраўніцтвам лідараў.

Возьмем, да прыкладу, ЗША. 4 ліпеня 1776 года ў Філадэльфіі на Другім Кантынентальным кангрэсе прадстаўнікі 13 брытанскіх калоній аднагалосна прынялі Дэкларацыю незалежнасці, якую падпісалі 56 дэлегатаў. Але для таго, каб незалежнасць дэ-юрэ стала незалежнасцю дэ-факта, амерыканскай нацыі, якая толькі зараджалася, давялося прайсці праз вайну з метраполіяй, што доўжылася восем гадоў (1775–1783).

Найпроставыя ваенныя страты — 8 тысяч забітыя, 17 тысяч памерлі ад хвароб, 25 тысяч параненыя. Лічбы па цяперашніх мерках камусьці могуць здацца не вельмі істотнымі. Аднак неабходна ўлічыць, што насельніцтва ЗША на той момант не перавышала 3 мільёнаў чалавек. Вайна завяршылася перамогай патрыётаў, што вымусіла каля 100 тысяч лаялістаў эміграваць з краіны.

Вось такая статыстыка. З аднаго боку, дзясяткі дэлегатаў, з другога — тысячы забітых і скалечаных. Чый уклад у незалежнасць меў большую вагу — эліты ці грамадства? Пытанне не надта карэктнае. Але ў актыўнай частцы беларускага грамадства адказ на падобнае пытанне, у дачыненні да падзеяў 1994 года, да гэтага часу не знойдзены. Адсюль папулярнасць канспіралагічных тлумачэнняў («рука Масквы») перамогі на першых прэзідэнцкіх выбарах «чалавека з народа».

### Крыху сацыялогіі

У недзяржаўнай беларускай прэсе за апошні час з'явілася нямала артыкулаў, аўтары якіх выказваюць асцярогі наконт страты дзяржаўнага суверэнітэту. Наколькі такія хваляванні апраўданыя?

Улічваючы фармат «азбукі паліталогіі», звернемся да Вікіпедыі. Суверэнітэт — незалежнасць дзяржавы ў знешніх справах і вяршэнства дзяржаўнай улады ва ўнутраных справах. Але суверэнітэту без суверэна не бывае. Суверэн жа (ад фр. «souverain» — «вышэйшы», «вярхоўны») — асоба, якой без якіх-небудзь абмежавальных умоў і на працягу нявызначанага тэрміну цалкам належыць вярхоўная ўлада ў дзяржаве.

Згодна з артыкулам 3 Канстытуцыі, «адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ». Здавалася б, надзвычай канкрэтна. Аднак большасць беларусаў нават не здагадваецца пра тое, што з'яўляецца носьбітамі дзяржаўнай улады. Гэта пацвердзіла і апытанне «САТИО», праведзенае ў чэрвені 2016 года.

Абмяжуюся трыма вынікамі: 55% лічаць, што прэзідэнт з'яўляецца адзінай крыніцай улады; 99% упэўненыя, што не могуць паўплываць на дзяржаўную палітыку і рашэнне ўлады, і толькі 4% ведаюць дэпутата па сваёй акрузе ў парламенце.

Хто нясе адказнасць за такую палітычную непісьменнасць насельніцтва? Няўжо недзяржаўная прэса? А можа, і ў дадзеным выпадку без інтрыг спецслужбаў усходняга суседа не абышлося?

Пошук вінаватых не такі складаны, таму што ў нашым распараджэнні ёсць салідНае даследаванне «Мас-медыя і беларускае грамадства», праведзенае Інфармацыйна-аналітычным цэнтрам пры адміністрацыі адзінага палітыка (АП) у красавіку 2016 года.

Пачну з галоўнай высновы: «Ідучы за сусветнымі тэндэнцыямі, беларускія электронныя і друкаваныя СМІ паспяхова развіваюцца, актыўна ўкараняючы лічбавыя тэхналогіі і **рэалізуючы свой творчы патэнцыял**» (выдзелена. — С.Н.).

Адлягло. Мой страх, спароджаны вынікамі апытання «САТИО», апынуўся неабгрунтаваным. Палітычная непісьменнасць беларусаў — прамы вынік творчага патэнцыялу дзяржаўных СМІ і іх тэхнічных магчымасцяў, што растуць!

Падмацую сваю выснову сацыялагічнай статыстыкай. Сярод тэлевізійных праграм па папулярнасці лідзіруюць навінавыя. Іх указалі 79,8% рэспандэнтаў. Лідзіруюць па станоўчых водгуках «АНТ» (82,2%), «Беларусь 1» (80,7%) і «РТР Беларусь» (80,4%). Сярод друкаваных СМІ рэйтынг даверу «СБ» (83%) значна апярэджвае рэйтынгі даверу «БелГазеты» (55,2%) і «Народнай волі» (46%).

Чаму ж пры такой сацыялогіі больш за палову беларусаў лічаць АП адзінай крыніцай улады? І на гэтае пытанне ў даследаванні ёсць адказ: усяму віной «так званыя «фэйкавыя навіны», накіраваныя на фарміраванне максімальна вострай рэакцыі грамадства на тыя ці іншыя сфабрыкаваныя падзеі». Вось толькі чамусьці ў якасці прыкладу падобных навін прыводзяцца «выдуманыя выказванні Дональда Трампа».

**Для будаўніцтва любога тэхнічна складанага аб'екта патрэбныя не толькі архітэктары, але і высокакваліфікаваныя прадстаўнікі рабочых спецыяльнасцяў. І чым больш будзе апошніх, тым лепш. Нацыянальныя дзяржавы будуюць не лідары, а нацыі пад кіраўніцтвам лідараў**

### Гісторыя як рэсурс

Афіцыйны спіс выклікаў «беларускай мадэлі» 2 лютага 2018 года АП папоўніў яшчэ адным — выклікам «жадаючых перапісаць гісторыю». Цытую: «Сёння многія спрабуюць перапісаць гісторыю. Ніяк не могуць супакоіцца. І вам неабходна годна адказаць на гэты выклік. Пакінуць нашчадкам аб'ектыўнае ўяўленне аб нашым жыцці. Аб той гісторыі, якая сапраўды была».

Гістарычны мультымедыйны праект 25.by «СБ» — прыклад годнага адказу, прыклад фарміравання погляду на гісторыю, «якая сапраўды была». Але пры гэтым неабходна памятаць, што гісторыя — гэта тое, што мы думаем пра гісторыю. Іншай гісторыі не бывае.

Часткай займенніку першай асобы множнага ліку «мы», натуральна, з'яўляюцца і служывыя людзі, што манапалізавалі ўладу. Іх погляды на гісторыю і рэтранслююць дзяржаўныя СМІ. А там, дзе да мінулага датыкаецца дзяржава, тлумачыць філосаф Аляксандр Рубцоў, «гісторыю больш не вывучаюць, ёю кіруюць як абмежаваным рэсурсам — прадметам яшчэ адной дзяржаўнай манаполіі».

У расколатым грамадстве ў кожнай яго часткі свае погляды на гісторыю. Вось, напрыклад, якім фактам «СБ» тлумачыць сваю гістарычную навацыю: «Пра ўзровень беларускай дзяржаўнасці дазваляе меркаваць хоць бы вядомы факт выкрадання ў студзені 1994 года літоўскімі спецслужбамі з тэрыторыі Беларусі камуністычных лідараў Літвы Мікаласа Буракавічуса і Юозаса Ермалавічуса».

Пагаджуся. Дадзены факт не дадаў бы плюсаў ніводнай дзяржаве, якая прэтэндуе на суверэнітэт. Але пра што ж тады сведчаць факты выкрадання беларускіх апазіцыйных палітыкаў Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара? Пра сілу дзяржавы ці пра яе слабасць?

# «Феміністкі не стануць бегаць за табой з сякерай»

Наста ГРЫШЧУК

**На трэці феміністкі фестываль «Рэбры Евы» ў Санкт-Пецярбург з Беларусі прыехалі тры групы актывістаў, адна з іх — мінскі ВІА «Красный борщевик». Артур Камароўскі, удзельнік гэтага гурта, быў адзіным хлопцам з Беларусі — і наогул адзіным на фэсце ўдзельнікам мужчынскага полу. Але адразу трэба сказаць, што Артур адмовіўся ад вызначэння «мужчына» і адносіць сябе да квіру.**




Фота Насці Голікавай

## Застаёмся квіраваць

Артур наведвае квір-арт-майстэрню праекта MAKEOUT, прысвечанага гендару і сексуальнасці. Ён зазначае, што насамрэч дзейнасць праекта больш шырокая: супраціў любой дыскрымінацыі. Што да адмаўлення сябе мужчынам — гэта звязана не столькі з сексуальнасцю і гендарам, колькі з уціскам грамадства, калі сам факт, што біялагічна ты прыналежыш да пэўнага полу, звязвае па руках і нагах. Артур згадаў Джудзіт Батлер, якая пісала: калі нараджаецца дзіця, грамадства адразу ж пачынае канструяваць яму ідэнтычнасць. Хлопчыкам спавіваюць блакітнай стужкай, дзяўчынку — ружовай, і гэтак далей.

— Квір выходзіць за межы бінарнай, гетэранарматыўнай сістэмы. Гэта пытанне філасофіі і этыкі, пытанне ідэнтычнасці. Дакладней, ідэнтычнасці ты якраз не маеш, толькі набор прыкметаў. Таму квір-тэорыя яшчэ і пра тое, што да ўсяго трэба падыходзіць крытычна, — кажа Артур.

Да квіру ён прыйшоў паступова. Ні карэнных пераломаў, ні раптоўнага прасвятлення. Толькі штодзённы побытавы ўціск:

— Пасля дваццаці ты штодзень чуеш пытанні: калі ажэнішся, калі завядзеш дзяцей? Калі ты адзіны хлопец у філфакаўскай групе, цябе па змоўчанні лічаць «абаронцам» і прасоўваюць у авангард. На працы ў мужчынскай кампаніі пастаянна чуеш сексісцкія, ксенафобскія і гамафобскія жартачкі.

Артур рос без бацькі, і я спыталася: як ён ставіцца да пашыранага меркавання пра тое, што квір ці прыналежнасць да ЛГБТ — наступства таго, што называецца «адсутнасцю мужчынскага ўплыву». Згадалі камічны выпадак на папулярным беларускім партале, дзе апублікавалі гісторыі квір-людзей, а ў давесак (без узгаднення з аўтарам матэрыялу) — каментар псіхолага, які яскрава прадэманстраваў патрыярхальнае мысленне.

— Гэта любімы канёк нашага грамадства: не разумееш з'яву — вінавацць сям'ю, асабліва — маці-адзіночку. Той самы каментар псіхолага — падстрахоўка, каб не падаца занадта ліберальнымі і лявацкімі. Так, у пэўнай ступені ўплыў сямейных абставінаў ёсць. Асабліва калі бацькі — закладнікі гендарных стэрэатыпаў. Але, па-першае, ты не знаходзішся выключна ў сям'і, ізаляваны ад астатняга свету. Па-другое, з пункту гледжання квір-тэорыі — якая розніца, толькі маці ў цябе ці бацька? Гэта проста чалавек. Не ад полу залежыць, што ён табе дасць, — разважае Артур.

## Пётр I варыць боршч

ВІА «Красный борщевик» — арт-група, якую для ўдзелу ў фем-фестывалі стварылі ўдзельнікі квір-арт-майстэрні MAKEOUT. Назва з'явілася ад спалучэння «Красного пищевика», баршчу і знакамітай расліны. ВІА — бо ўдзельнікі паказвалі перформансы, дзе цела — галоўны інструмент.

— Некаторыя феміністкі кажуць, што гэта толькі іх барацьба... Але гучыць гэта як «я чалавек з інваліднасцю, таму толькі я магу змагацца за правы інвалідаў». Барацьба за правы жанчын уздзейнічае на грамадства ў цэлым, скідвае нейкія чаканні грамадства з мужчын. Калі жанчына можа зарабляць, мужчына перастае быць «здабытчыкам». Калі жанчына служыць у войску, мужчына — больш не «абаронца Айчыны». У Беларусі прафеміністы (мужчыны, якія падтрымліваюць фемінізм) не такая ўжо рэдкасць: Андрэй Завалей, Кірыл Калбаснікаў, Нік Анціпаў... Мне здаецца, калі зрабіць апытанку сярод мужчын, палова выступіць у падтрымку фем-руху.

Пры гэтым у нас слабая асветніцкая частка. Многім феміністкі ўсё яшчэ бачацца жанчынамі, якія хочуць знішчыць ненавісных мужчын. Вельмі варварскае ўяўленне. Калі для многіх еўрапейскіх краін фемінізм — звыклая з'ява, то ў нас усё яшчэ трэба тлумачыць, што феміністкі не стануць бегаць за табой з сякерай.

Я падтрымліваю кірунак інтэрсекцыянальнага фемінізму (тэрмін Кімберлі Крыншоў). Нельга казаць толькі пра адну дыскрымінацыю, якую зведвае жанчына. Напрыклад, ты можаш быць цемнаскурай лесбіянкай з інваліднасцю. Вобраз, канечне, канцэнтраваны, але ім лёгка патлумачыць накладанне дыскрымінацыяй.

«Рэбры Евы» — інтэрнацыянальны фестываль: групы з Расіі, Беларусі, Фінляндыі, самотная жанчына з Кыргызстана. Тэмы — самыя разнастайныя.

— Удзельніцы з Масквы паднялі праблему жанчын-палітвязняў. Чыталі п'есу пра менструацыю. Праводзілі перформанс «Счастье материнства»: драматургіня сабрала матэрыял на тэму «што значыць быць маці», і шчаслівых гісторый не знайшлося. Можа, выпадковасць, а можа — аб'ектыўная праўда: ніхто пра такое не кажа ўголас. Гучала гісторыя пра жанчыну, якая выйшла замуж і з'ехала ў Швецыю. Сваёй сястры яна дасылала здымкі, на якіх бачылася райскае жыццё. Аднойчы пасля вячэры гэтая жанчына сказала мужу: мне трэба пабыць адной. Калі муж вярнуўся, ён убачыў, што жонка засілілася. Засталося трое дзяцей.

Мы паказвалі перформанс пра мізагінію — як жанчыны прыцкаюць іншых жанчын. Перформерка чытала кнігу «Другі пол» Сімоны дэ Бавуар, і ў той жа час яе пераапраналі ў традыцыйную дзевачкавую апратку... З яе рабілі не тую, кім яна сябе адчувала, — рабілі «удобную в быту». Паказвалі відэаперформанс пра тое, як на працягу жыцця жанчыну лапаюць мужчыны, і сімвалічныя брудныя сляды, што застаюцца на целе, нікуды не знікаюць.

Яшчэ адна акцыя была «пра боршч». Мы частавалі ім людзей на вуліцах Піцера. Разам з тым пыталіся: хто ў вашай сям'і выконвае хатнія абавязкі? Адна жанчына страшна абуралася, што ў баршчы няма мяса: мяса мусіць быць, бо жанчына павінна быць моцнай! І ўвесь час выпытвала, хто за намі стаіць... Быў мужчына ў касцюме Пятра І. Ён сказаў, што варыць боршч сам. У цэлым заўважна, што людзі не задумваюцца, чаму хатнія абавязкі ляжаць на жанчыне. Проста так ёсць.



Многія сяброўкі пыталіся: чаму ты не думаеш, што жанчыне гэта можа падабацца? Гатаваць, займацца хатняй гаспадаркай?.. Мне ў такі расклад не верыцца. Варта паставіць пытанне інакш: чаму яны так вырашылі? Можа, маці ўклала ў галаву «традыцыйныя каштоўнасці»? Ці муж сказаў: я зарабляю — ты сядзіш дома? Так, ёсць у мяне сяброўка, якая любіць «хатнія клопаты», але гэтым яна не абмяжоўваецца.

## Гвалтоўныя «каштоўнасці»

У Мінску «Красный борщевик» плануе правесці перформанс «Месца крыку».

— Крык — гэта пра людзей, якія зведваюць дыскрымінацыю. Іх выключаюць з публічнага дыскурсу, ім не даюць слова. Крыкам мы абазначылі сябе, прысвоілі частку публічнай прасторы.

Гэты перфоманс паказвалі ў Піцеры. Было страшна, але там больш бяспечна, чым у Мінску, — патрулі не ходзяць кожныя дзесяць хвілін.

Што да «традыцыйных каштоўнасцяў» — я не ведаю, што гэта такое. Мне падаецца, набор словаў, вельмі зручных для маніпуляцый у руках тых, хто мае ўладу. І пра якія канкрэтна «традыцыйныя каштоўнасці» размова? У нас іх столькі!.. Напрыклад, часоў Сярэднявечча.

Для Беларусі самая актуальная праблема — хатні гвалт і эканамічная дыскрымінацыя, аднолькавыя магчымасці для жанчын і мужчын у прафесійнай сферы.

Я не з тых, хто сядзеў у зоне камфорту, а потым увесь такі прыгожы выйшаў змагацца за правы жанчын. Я сам — сведка дыскрымінацыі. І гэта было не за чужымі дзвярыма, а з маёй маці. Так, я бачыў хатні гвалт і ведаю, што гэта. Ведаю, што ў маім родным Міры гэта адбываецца з многімі жанчынамі, пастаянна. Ведаю маміну сяброўку, якую збіваў сужыцель. Да такой ступені, што яна не магла ісці, проста паўзла ад яго, уся сіняя. Але была залежная і кожны раз вярталася. Яшчэ прыклад: мая бабуля. Я быў зусім малы. У час сваркі сужыцель бабулі пакалаціў яе і пайшоў з хаты. А бабуля пабегла за ім і прасіла, каб вярнуўся. І мне шкада было абаіх.

Калі я распавядаю пра дыскрымінацыю жанчын, мне часам кажуць: ну давай, прывядзі хоць адзін прыклад!.. Мяне гэта крыху злуе: цябе як быццам змушаюць апраўдвацца. Але калі трэба, я прыводжу прыклады. Іх хапае.

# Вандэя ў дзеянні:

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**На 13-й сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання 18 лістапада 1993 года лідар БНФ Зянон Пазняк нагадаў міністру ўнутраных спраў БССР Віктару Піскарову: «Нішто не забытае і ніхто не забыты». Гаворка ішла пра падзеі 30 кастрычніка 1988 года ў Мінску, калі ўлады жорстка разагналі шэсце, прысвечанае «Дзядам». Брутальны і абсалютна бессэнсоўны разгон мітынгу і сёння выклікае шмат пытанняў.**



Дзяды 1988-га ўвайшлі ў гісторыю

## Бомба

Адносна ціхае грамадска-палітычнае жыццё Беларусі было парушана 3 чэрвеня 1988 года. У гэты дзень «Літаратура і мастацтва» выйшла з артыкулам пад назвай «Курапаты — дарога смерці». Аўтарамі значыліся старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, кандыдат мастацтвазнаўства Зянон Пазьняк і інжынер Яўген Шмыгалёў.

У артыкуле гаворка ішла пра масавыя расстрэлы органамі НКУС на Беларусі ў 1930-я гады. Артыкул меў настолькі вялікі рэзананс, што рэдакцыя газеты была завалена лістамі.

Артыкул Пазьняка—Шмыгалёва (з уступным словам Васіля Быкава) быў нечаканасцю для пераважнай большасці беларускіх грамадзян. Больш за тое, ён меў канкрэтныя праўныя наступствы: 14 чэрвеня 1988 года была створана ўрадавая камісія, якая сумесна з Пракуратурай БССР распачала расследаванне падзей у Курапатах.

Услед за Пазьняком здабыць сабе вядомасць на тэме сталінскіх рэпрэсій памкнуліся іншыя аўтары. «Советская Белоруссия» надрукавала шэраг артыкулаў былога намесніка дырэктара Інстытута гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі (КПБ) Сяргея Пачаніна («Чёрные дни 37-го»). Аднак ніводная з наступных публікацый па тэму сталінскіх рэпрэсій не атрымала ў рэспубліцы рэзанансу, параўнальнага з артыкулам «Курапаты — дарога смерці».

19 чэрвеня 1988 года ў Мінску адбыўся мітынг памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій з удзелам Пазьняка. Гэтая акцыя ацэньвалася з процілеглых пазіцый: калі «Літаратура і мастацтва» паставілася да мітынгу пазітыўна, то «Вечерний Минск» адрэагаваў нервова, абвінаваціў ініцыятараў у наяўнасці палітычных амбіцый.

Што да Пазьняка, то пачаткам яго грамадскай актыўнасці можна лічыць красавік 1969 года, калі ў агульнасаюзнай газеце «Правда» ён з мастаком Лявонам Баразной у сумесным артыкуле «Заботясь о будущем» выступіў супраць плана забудовы беларускай сталіцы, які прадугледжваў знос тэатра імя Янкі Купалы, а таксама старажытных архітэктурных збудаванняў у раёне Нямігі. Гэты артыкул быў фактычна выклікам партыйнаму кіраўніцтву Беларускай ССР на чале з Пятром Машэравым.

У жніўні 1972 года Лявон Баразна быў забіты ў Мінску на вуліцы — паводле афіцыйнай версіі, хуліганамі. Пазьняк, ужо стаўшы публічным палітыкам, неаднойчы сцвярджаў, што смерць яго паплечніка — справа спецслужбаў.

Сам Пазьняк за сваю актыўную грамадзянскую пазіцыю цкаваўся ўладамі, неаднаразова пазбаўляўся працы. Ён страціў магчымасць абараніць кандыдацкую дысертацыю ў БССР. Беднасць, побытавая неўладкаванасць і іншыя фактары паспрыялі фармаванню ў Пазьняка антысавецкіх поглядаў, як ён сам прызнаваўся.

20 сакавіка 1988 года Пазьняк выступіў на мітынгу супраць будаўніцтва новай веткі сталічнага метро, арганізаваным актывістамі «Талакі». Удзельнікі мітынгу ахарактарызавалі Пазьняка як «шматпакутнага мастацтвазнаўцу і глыбокага знаўцу гісторыі свайго народа». Пасля гэтага афіцыйныя выданні, у прыватнасці, газета «Вечерний Минск», пачалі кампанію дыскрэдытацыі. У адной з красавіцкіх публікацый пад назвай «Позиция или поза?» кандыдата мастацтвазнаўства абвінавацілі ў экзальтаваных закліках, беспадстаўным «критиканстве» ўчынкаў савецкай бюракратыі, якая нібыта разбурыла ў Беларусі больш помнікаў, чым нямецка-фашысцкія захопнікі.

Да крытыкі Пазьняка далучыўся партыйны камітэт па месцы яго працы ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Мастацтвазнаўцу закідалі не толькі эмацыйнасць і катэгарычнасць у меркаваннях, але і «отход от классовых оценок некоторых общественно-политических явлений», што, паводле парткама, з'яўлялася «недопустимым в институте идеологического профиля».

Прэтэнзіі на адрас навукоўца былі настолькі адыёзныя, што ў абарону Зянона выступіла газета «Літаратура і мастацтва». Пазіцыю парткама аўтарытэтнае выданне ацаніла як прыклад бюракратычнай падстрахоўкі і чарговай «разбіралаўкі».

## Вандэя

У вераснёўскім нумары (№39) за 1988 год папулярнага агульнасаюзнага выдання «Огонёк» з'явіўся артыкул вядомага беларускага пісьменніка Алеся Адамовіча. Знешне звычайная публікацыя выклікала шалёную рэакцыю беларускіх камуністаў. Гарбачову, дзе наракалі на катастрафічны стан беларускай мовы. Чачэнскі саветолаг і эмігрант Абдурахман Аўтарханаў, аўтар шэрагу прац пра савецкі таталітарызм, назваў гэты калектыўны зварот вядомых беларусаў «документом исторической важности по национальному вопросу в СССР».

Артыкул пісьменніка абмяркоўваўся і на 10-й сесіі Вярхоўнага Савета БССР 11-га склікання. У прыватнасці, 19 лістапада 1988 года дэпутат Аляксандр Мартысюк, старшыня Мінскага абласнога савета прафесійных саюзаў, патрабаваў ад Алеся Адамовіча публічнага прабачэння. Таксама прабачэння ад Адамовіча патрабаваў праз сродкі масавай інфармацыі выкладчык Мінскага педінстытута Валерый

**Непрыемным сюрпрызам для кіраўніцтва БССР стала публікацыя ў агульнасаюзнай «Литературной газете». У артыкуле раскрываліся падрабязнасці падзей 30 кастрычніка, замоўчаныя беларускімі СМІ. Публікацыя суправаджалася высновамі аб неправамерных дзеяннях міліцыі**

Аўтар «Вайны пад стрэхамі» назваў Мінск Вандэяй перабудовы (Вандэя — французскі дэпартамент, дзе 10 сакавіка 1793 года пачаўся мяцеж супраць французскага рэвалюцыйнага ўрада. — Аўт.).

У адным гэтым азначэнні адлюстравалася ўся прырода грамадска-палітычнага і сацыяльна-эканамічнага жыцця БССР як адной з самых кансерватыўных рэспублік СССР. Для прыкладу можна ўзяць хаця б адну сферу — моўную. У 1980-я гады назіраўся заняпад беларускай мовы бадай на ўсіх узроўнях. 15 снежня 1986 года 28 дзеячаў культуры накіравалі адкрыты ліст генеральнаму сакратару ЦК КПСС Міхаілу

Талкачоў (будучы прэс-сакратар Лукашэнкі ў 1996–1997 гадах).

## Аргкамітэт

І ўсё ж беларуская ідэя прабівала сабе жыццё. 19 кастрычніка 1988 года ў Доме кіно («Чырвоны» касцёл Сымона і Алены) адбылася ўстаноўчая канферэнцыя грамадскага аб'яднання «Мартыралог Беларусі», якое ўзначаліў Зянон Пазьняк. Адначасова было заяўлена аб арганізацыйным камітэце па стварэнні Беларускага народнага фронту. Старшынёй Аргкамітэта стаў Пазьняк.

Стварэнне «Мартыралогу» і Аргкамітэта БНФ выклікала рэзкую негатыўную рэакцыю з боку «ястрабаў» ва ўладзе. У прэсе пачалася кампанія шальмавання прыхільнікаў Фронту. Вядучыя газеты апублікавалі некалькі артыкулаў са здзеклівымі назвамі. Адзін з іх, «Эволюция политического невежества», апублікаваны ў газеце «Знамя юности», быў падпісаны акадэмікамі, дактарамі і кандыдатамі навук: ён утрымліваў зубаскрышальную крытыку «нефармальнага» руху ў Беларусі.

22 кастрычніка 1988 года ў Доме палітычнай асветы ўлады арганізавалі мерапрыемства пад умоўнай назвай «грамадска-палітычная дыскусія». Удзельнікі гэтай дыскусіі выступілі супраць БНФ. Заявы слесараў і тынкоўнікаў, напісаныя нібы пад капірку, гучалі непераканаўча. Хутчэй за ўсё, яны толькі дадавалі папулярнасці новаму руху.

Рэакцыя «народных масаў» на захады па стварэнні БНФ падрабязна асвятлялася ў «Вечернем Минске», гэтаму быў прысвечаны цэлы цыкл артыкулаў. У адной з публікацый будучаму БНФ супрацьстаўляліся «сотни молодых людей, которые сегодня не только говорят о перестройке, а творят ее созидательным трудом и научно-техническим поиском». Сярод гэтых «молодых людей» фігураваў на той час 34-гадовы Аляксандр Лукашэнка, які «возглавил самое убыточное в Могилевской области хозяйство». Газпадарка, як сцвярджала публікацыя, «практически за год благодаря внедрению новых хозрасчетных отношений» атрымала «миллионную прибыль». Таму «молодого директора пригласили на совещание в ЦК КПСС», дзе «с ним беседовал по этим проблемам Михаил Сергеевич Горбачев».

Вядучыя беларускія пісьменнікі і паэты правялі 27 кастрычніка 1988 года партыйную канферэнцыю. Прысутны на сходзе народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль назваў дзікунствам

# Дзяды–1988

выступленні ўдзельнікаў дыскусіі 22 кастрычніка, а кіраўнік Мінскага гарадскога камітэта КПБ Уладзімір Галко змушаны быў выслухаць непрыемныя пытанні.

## Падрыхтоўка

На адрас выканкама Савецкага раёна Мінска 14 кастрычніка 1988 года паступіла незвычайная заява, падпісаная старшынёй Таварыства маладых літаратараў («Тутэйшыя») Аляксандрам Бяляцкім і сябрам Рады Таварыства Анатолем Сысам. Падпісанты прасілі сталічныя ўлады даць дазвол на правядзенне «гістарычна-літаратурнага беларускага свята-мітынгу “Дзяды”» (канцавы прыпынак трамваю №1 — Зялёны Луг, далей — жалобная працэсія да Курапатаў).

Улады былі ў разгубленасці: што рабіць? Яны памяталі сумны досвед падзей 20 красавіка 1986 года, калі падчас Выставы аднаго дня ў Траецкім прадмесці Мінска на навучэнцаў Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве па-хуліганску накінуліся былыя «афганцы». «Афганцы» ганілі і штурхалі дзяцей, якія бралі ўдзел у абрадзе Гукання вясны, за тое, што дзеці нібыта святкавалі дзень нараджэння нацысцкага фюрэра. Арганізатары Выставы аднаго дня мастакі Аляксей Марачкін і Мікола Купава паскардзіліся на «афганцаў» у пракуратуру, але атрымалі толькі адпіску.

Аднак 25 кастрычніка 1988 года ўлады далі адказ: «В связи с проведением 29–30 октября 1988 года торжеств, посвящённых 70-летию образования ВЛКСМ… в проведении 30 октября 1988 года праздника-митинга “Дзяды”… отказать».

Нягледзячы на забарону ўладаў, праца па арганізацыі мітынгу пачалася. Праваахоўныя органы паведамлялі, што з 27 па 30 кастрычніка 1988 года ў грамадскіх месцах было знойдзена каля 150 улётак з заклікам узяць удзел у мітынгу.

Арганізатары мітынгу ўсведамлялі, на якую рызыку ідуць. Дзейнічаў адыёзны ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 15 жніўня 1988 года, які ўзмацніў матэрыяльную і адміністрацыйную адказнасць за парушэнне парадку арганізацыі і правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый.

## Пушкін

Сталічныя праваахоўныя органы 28 кастрычніка 1988 года паведамілі пра затрыманне студэнта Тэатральна-мастацкага інстытута Алеся Пушкіна, які на Ленінскім праспекце каля дома №58 расклейваў улёткі з заклікам на мітынг. У выніку Пушкіну далі 5 сутак адміністрацыйнага арышту. Аднак адбылося непрадбачанае: за Пушкіна ўступіліся яго калегі-студэнты: Пушкін — выдатнік вучобы, лаўрэат стыпендыі імя Францыска Скарыны, воін-інтэрнацыяналіст, які два гады правеў у Афганістане. У выніку Пушкін быў вызвалены.

## Разгон

Падчас разгону двухтысячнага мітынгу ў раёне Маскоўскіх могілак у Мінску былі затрыманы 72 удзельнікі. Пацярпелыя, у тым ліку Зянон Пазьняк, заявілі аб ужыванні супраць іх спецсродкаў, у прыватнасці, слезацечнага газу.

Намеснік міністра ўнутраных спраў Канстанцін Платонаў у дакладной запісцы сцвярджаў, што спецсродкаў у праваахоўных органаў на месцы разгону не было, а сілавыя дзеянні міліцыі тлумачыў вострай неабходнасцю:

«Поступавшая информация давала основания полагать, что в большинстве своем участниками митинга будет молодежь. УВД Мингорисполкома был разработан план обеспечения охраны порядка на случай попытки проведения этого митинга. Согласно плану, к несению службы привлекалось 600 человек личного состава Минского гарнизона милиции и курсанты учебных заведений МВД СССР, 30 автомашин милиции, 2 пожарных автомашины. Специальный отряд милиции по пресечению групповых нарушений порядка был экипирован средствами индивидуальной защиты и находился в автобусах, подразделения внутренних войск в несении службы участия не принимали.

30 октября в районе сквера по ул. Калиновского около 14 часов стали собираться участники митинга, а также любопытные и прохожие. В целях недопущения митинга сквер был блокирован сотрудниками милиции и народными дружинниками. Разъяснительная работа, проводимая, к сожалению, только нашими работниками, не остановила нарушителей. Они сделали попытку прорваться в глубину сквера, но их действия были пресечены. Именно здесь была задержана первая группа граждан, которые проявляли наибольшую активность и не подчинялись законным требованиям работников милиции.

Отдельные граждане открыто подстрекали к противоправным действиям, оскорбляли работников милиции, призывали оказывать сопротивление власти. В таких условиях, когда в толпе, насчитывавшей около двух тысяч человек, находились женщины, дети, события могли повлечь весьма серьезные последствия, за которые в конечном итоге ответственность несла бы милиция.

В целях обеспечения безопасности людей принимались меры по разделению толпы на более мелкие группы, продолжалось убеждение присутствовавших не обострять обстановку. Даже при задержании правонарушителей работники милиции проявляли выдержку и самообладание, хотя в этих условиях, когда из толпы раздавались выкрики: «Фашисты», «Сталинисты», «Убийцы» и др., это было далеко не просто.

Всего во время обеспечения порядка при попытке проведения митинга было выявлено и задержано 72 нарушителя общественного порядка, проводится работа по установлению и документированию противозаконной деятельности организаторов и активных участников митинга.

Во время несения службы по недопущению проведения несанкционированного митинга специальные средства (резиновые палки, слезоточивый газ, водометы и др.) не применялись. Все эти средства в полном объеме после несения службы сданы в места их постоянного хранения. Деятельность милиции основывалась только на убеждении, предупреждении нарушений закона».

У адказ Аргкамітэт БНФ распаўсюдзіў адмысловую заяву, дзе разгон мітынгу расцэньваўся як «непрыкрыты рэцыдыў сталіншчыны», а беларускаму кіраўніцтву выказваўся палітычны недавер:

«30 октября 1988 года в городе Минске отряды милиции и внутренних войск, спецподразделения, вооруженные дубинками, слезоточивым газом и водометной техникой, разогнали многотысячный митинг — реквием памяти предков «Дзяды», предварительно незаконно, без юридического обоснования, запрещенный. Было безосновательно задержано свыше 70 человек, в том числе члены творческих союзов, представители прессы, женщины. Применялась физическая сила и слезоточивые газы. Мы расцениваем события 30 октября как неприкрытый рецидив сталинщины, как наступление антиперестроечных сил на демократию и высказываем решительный протест против беззакония и насилия над правами человека. Приказом разогнать митинг власти показали, что вести диалог с народом они не желают. В республике развернута оскорбительная кампания против Общества памяти жертв сталинизма «Мартыралог Беларусі», Оргкомитета Белорусского Народного Фронта «Адраджэньне», патриотических молодежных объединений. Идет беспрецедентная дискредитация творческой и научной интеллигенции, разжигается социальная вражда. Оргкомитету БНФ «Адраджэньне» провокационно приписываются абсурдные политические намерения, людей пугают прибалтийскими народными движениями за перестройку, целенаправленно искажая их демократическую суть.

Мы решительно заявляем, что курс на разжигание межнациональной и социальной вражды, который выбрала сегодня идеологическая служба республики, это уголовное и политическое преступление.

Выход из сегодняшнего кризиса мы видим в открытом диалоге общественности с теми руководителями, которые осознают, наконец, что перестройка не осуществится до тех пор, пока в политическую жизнь республики не включатся миллионы ее жителей.

Руководство, применившее силу против своего народа, развернувшее клеветническую кампанию против демократической инициативы, против интеллигенции и молодежи, скомпрометировало себя и не заслуживает политического доверия».

Разгон мітынгу 30 кастрычніка 1988 года быў з боку ўладаў БССР няўдалым крокам. Рэзка адмоўна да яго паставіліся вядучыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Больш за тое, кіраўнікі БССР не маглі ў гэтым пытанні абаперціся на падтрымку саюзных органаў улады.

Непрыемным сюрпрызам для кіраўніцтва БССР стала публікацыя ў агульнасаюзнай «Литературной газете». У тым артыкуле раскрываліся падрабязнасці падзей 30 кастрычніка, замоўчаныя беларускай прэсай. Публікацыя суправаджалася высновамі аб неправамерных дзеяннях міліцыі.

У непрывабным выглядзе былі выстаўлены ўлады БССР і ў некаторых іншых маскоўскіх выданнях, папулярных пад канец 1980-х гадоў. Так, у часопісе «Огонек» Васіль Быкаў апублікаваў рэзанансны артыкул («Дубинки вместо гласности?»), прысвечаны разгону мітынгу.

Прававую ацэнку падзеям 30 кастрычніка павінна была даць адмыслова створаная камісія, узначаленая старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Георгіем Таразевічам. Вынікам дзейнасці камісіі стала пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 14 лістапада. У ім арганізатарам мітынгу закідалася тое, што яны хацелі выкарыстоўваць шэсце ў мэтах, «якія не маюць нічога агульнага з рытуалам памінання».

Неўзабаве па прыняцці пастановы Таразевіч даў вялікае інтэрв'ю, дзе ўскосна выказаўся супраць стварэння БНФ і дзеянняў арганізатараў мітынгу, акрэсліў перспектывы «нефармальнага» руху. Паводле Таразевіча, «нефармалам» і БНФ адводзілася ў справе перабудовы другасная роля: яны меліся служыць «прывадным рэменем» партыі і камсамола.

Брутальны разгон мітынгу 30 кастрычніка 1988 года пацвердзіў, наколькі ў Беларусі моцная савецкая спадчына і сталіншчына. Праз некалькі гадоў такі прыём на ўзбраенне возьме Аляксандр Лукашэнка. Яго фраза, кінутая пасля Плошчы–2010 («Тебе палкой дали по голове — так это самое меньшее зло») каментараў не патрабуе.



**Удзельнікі мітынгу «Дзяды–88» у Мінску.**
Крыніца: www.vytoki.net

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Вызваліць падлеткаў ад дзяцінства

Трагедыя ў Керчы, дзе было забіта амаль 20 чалавек, прымусіла расійскае грамадства шукаць прычыны падлеткавай агрэсіі і спосабы яе прафілактыкі. На думку пісьменніка Эдуарда Лімонава, выток агрэсіі школьнікаў нельга растлумачыць уплывам амерыканскай масавай культуры. Кожны малады чалавек, лічыць Лімонаў, прыкладна пасля 14 гадоў становіцца канфліктным, паколькі ідзе працэс фарміравання асабістага характару. Пры гэтым у вачах падлетка менавіта школа і настаўнікі выступаюць асноўнымі праціўнікамі яго індывідуальнасці. І калі пакорлівыя падлеткі звыкла скараюцца ўладзе дарослых яшчэ на тры-чатыры гады, то непакорлівыя могуць стаць забойцамі. На гэтай базе Лімонаў робіць выснову: «Закрыты клімат навучальных установаў для падлеткаў стварае жорсткасць і агрэсію. Вінаватыя ў гэтым не выбуховыя індывіды, але сам прынцып гвалтоўнага ўтрымання ўжо дарослых людзей у стане дзяцінства». Таму, як лічыць пісьменнік, панацэя ад школьнага гвалту — гэта выпуск падлеткаў са школ па дасягненні чатырнаццаці гадоў. «Папраўка наспела. Вызваліце падлеткаў ад школы, вызваліце ад гвалтоўнага стану дзяцінства», — заклікае Лімонаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Скрадзены гімн

Шэраг музычных экспертаў пагадзіліся з тым, што цяперашні іспанскі гімн — плагіят. Нагадаем, у якасці гімну прыкладна з канца XVIII стагоддзя іспанцы выкарыстоўваюць мелодыю «Каралеўскі марш» (іншая назва — «Марш грэнадзёраў»). Гэта музычная тэма таксама даўно стала адным з сімвалаў мясцовага правага руху і прыхільнікаў мілітарызму. Тым больш непрыемна для іх даведацца, што ў аснове любімай мелодыі ляжыць музыка арабскай андалузскай рамантычнай песні, вядомай з XI стагоддзя. Нагадаем, арабы жылі на Пірэнеях прыкладна да XIV стагоддзя, пакуль іх дзяржавы не былі захопленыя іспанцамі. Дарэчы, андалузская версія паходжання «Каралеўскага маршу» лёгка тлумачыць, чаму ў іспанскім гімне няма словаў. Справа ў тым, што ў андалузскай традыцыі ўсе музычныя тэмы пачынаюцца з доўгага інструментальнага пралогу. Яшчэ больш дыскрэдытуюць іспанскі гімн словы андалузскага арыгіналу: «Ваша прыгажосць ажыўляе маё сэрца... Твая любоў захапіла мяне...» і гэтак далей. Жудасны сімвалічны ўдар іспанскія правыя намагаюцца кампенсаваць спасылкамі на тое, што шматлікія гімны ў свеце былі запазычаныя.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ЗША. Кожны чацвёрты ў стрэсе

Брытанскае выданне «Daily Mail» падзялілася сенсацыйнымі вынікамі даследавання сярод студэнтаў шэрагу амерыканскіх універсітэтаў. Аказваецца, кожны чацвёрты з прыкладна 800 апытаных скардзіцца на псіхічны стрэс, які выклікае інфармацыя пра Дональда Трампа. Спецыялісты лічаць, што апісанне хваробы нагадвае дыягназ посттраўматычнага сіндрому, і нават далі новаму феномену назву «Траўма Трампа». Найбольш патэнцыйныя ахвяры «Траўмы Трампа» — жанчыны, афраамерыканцы і выхадцы з Лацінскай Амерыкі, што, напэўна, не дзіўна. Менавіта гэтыя катэгорыі амерыканцаў прэзідэнт ЗША ў сваіх выступах робіць вінаватымі ў праблемах краіны. Псіхолагі таксама папярэджваюць, што «Траўма Трампа» можа выклікаць не толькі стрэс, аднак і закончыцца псіхічным зрывам. Прычым, пад руку такому хвораму могуць трапіць і простыя людзі. Аднак значна больш непакоіць псіхолагаў тое, што сродкаў барацьбы з «Траўмай Трампа» пакуль няма.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Будзем скардзіцца ў Белы Дом!



Да каго звяртаюцца незадаволеныя грамадзяне? Відавочна, да ўраду і праваахоўных структураў, якія могуць дапамагчы аднавіць справядлівасць. Аднак ва Украіне намеціўся новы трэнд. Усё часцей людзі выходзяць на пікет да амерыканскага пасольства. З чэрвеня каля пасольства ЗША ў Кіеве праходзіць мітынг падманутых укладчыкаў. На днях ад амерыканскага пасольства прасілі навесці парадак жыхары вёскі Кацюбінскае, дзе адбываецца рэйдарскі захоп. Скаргі паслу ЗША толькі на першы погляд падаюцца дзіўнымі. Агульнавядома, што пасольства ЗША сапраўды моцна ўплывае на курс украінскіх уладаў. Прычым, ніхто з пікетоўцаў, паводле журналістаў, не верыць, што Дзяржэдп будзе вырашаць іх праблемы. Хутчэй, украінцы, якія выходзяць да пасольства ЗША, абвінавачваюць уласных кіраўнікоў у недзеяздольнасці, выказваюць на іх адрас пагарду. Дарэчы, пікеты каля пасольства ЗША сапраўды выклікалі вялікую цікавасць у прэсе. Як вынік, практыка падобных акцый, хутчэй за ўсё, будзе працягнутая.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Ці паўстане дзяржава канакаў?

Алег НОВІКАЎ

**Ужо на гэтым тыдні на карце свету можа з'явіцца новая дзяржава. Гаворка пра Новую Каледонію — адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку Францыі, жыхары якой 4 лістапада павінны выказацца на плебісцыце наконт магчымай незалежнасці архіпелага.**




Фота www.ensemble-fdg.org

Незалежнасць Новай Каледоніі ўжо абвяшчалася. Гэта здарылася 1 снежня 1984 года, калі Канакскі сацыялістычны фронт нацыянальнага вызвалення (FLNKS) абвясціў дзяржаву «Канакі» (Kanaky) і адразу сфармаваў яе ўрад.

На той час FLNKS надаваў перавагу вайсковым метадам барацьбы з французскімі каланізатарамі. Таму абвешчаная дзяржава існавала выключна ў зоне, якую кантралявалі партызаны Канакскага сацыялістычнага фронту нацыянальнага вызвалення. Тым не менш, дзяржаўнае будаўніцтва ў Канакі было вельмі інтэнсіўным. Хутка была прыдумана дзяржаўная сімволіка, ва ўмовах падполля скліканы парламент, і нават пачалі функцыянаваць міністэрствы.

У тым ліку актыўна працавала дыпламатычнае ведамства Канакі. Прычым не без поспехаў. Прынамсі, не супраць прызнання новай дзяржавы выступаў лівійскі правадыр Муамар Кадафі. Схіляліся да прызнання і некаторыя суседзі Новай Каледоніі накшталт Вануату. Канакі нават прабіліся з выступам на асамблею ААН.

Знешнепалітычнаму прарыву, натуральна, перашкаджала пазіцыя Парыжу, які катэгарычна адмаўляўся прызнаваць Канакі. Таму сярод незалежнікаў нарадзілася ідэя штучна схіліць французаў да перамоваў. Увесну 1988-га канакі атакавалі пост жандараў на востраве Увеа, узялі ў палон 27 чалавек і выставілі французам кошт за іх вызваленне — пачатак дыялогу наконт афіцыйнага прызнання Канакі.

Парыж, не звыклы да падобнага тону, адправіў на Увеа элітны спецназ. Спецназ бліскуча выканаў задачу, што паставіў асабіста прэзідэнт Мітэран, — за пару гадзінаў вызваліў закладнікаў. Аднак пры гэтым яўна перастараўся: большасць канакаў былі забітыя пасля таго, як пагадзіліся скласці зброю. Выбухнуў мегаскандал.

Шакаваная непрапарцыйным выкарыстаннем сілы французская грамадскасць патрабавала ад адміністрацыі прэзідэнта Мітэрана мірных кансультацый з сепаратыстамі. У тым жа 1988 годзе бакі дасягнулі кампрамісу. Канакі атрымалі амністыю, інстытуцыйныя і эканамічныя гарантыі для сваёй грамады. Французы, у сваю чаргу, дамагліся самароспуску дзяржавы Канакі. Плюс на працягу дзесяці гадоў, да 1998-га, сепаратысты адмаўляліся ўздымаць тэму незалежнасці.

Праўда, у 1998-м развязка так не наступіла. Лічыцца, што супраць плебісцыту выступілі якраз канакі, якія баяліся прайграць рэферэндум. Як вынік, пад эгідай французскага прэм'ер-міністра Ліянеля Жаспена было падпісана новае пагадненне. Паводле дакументу, канчатковае рашэнне пра незалежнасць Новай Каледоніі пераносілася на 2018 год. Праўда, канакі нешта выгандлевалі ў Жаспена. Дазвалялася выкарыстанне канакскіх матываў у дзяржаўнай сімволіцы. Таксама Парыж даў згоду на ўжыванне такога юрыдычнага тэрміну, як «новакаледонскае грамадзянства».

Давялося чакаць яшчэ 20 гадоў, каб нарэшце пытанне незалежнасці вынеслі на рэферэндум. Такім чынам, 4 лістапада 174 154 выбаршчыкі Новай Каледоніі павінны адказаць на пытанне: «Ці жадаеце вы, каб Новая Каледонія атрымала поўны суверэнітэт і стала незалежнай?». Дарэчы, калі большасць прагаласаваўшых падтрымае такую фармулёўку, серыял не закончыцца. Дамова 1998 года дазваляе правесці як мінімум яшчэ два рэферэндумы наконт канчатковага лёсу архіпелагу.



**Кволы энтузіязм тутэйшых наконт незалежнасці, напэўна, тлумачыцца праблемамі эканомікі. Прыкладна 90 працэнтаў бюджэту Новай Каледоніі фармуецца за кошт субсідый з метраполіі**

Пакуль усё выглядае так, што дадатковыя плебісцыты будуць патрэбныя. Прагнозы для канакаў несуцяшальныя. Сацыёлагі мяркуюць, што аматары незалежнасці атрымаюць максімум 35 працэнтаў галасоў. Франкафоны могуць разлічваць на больш за 60 працэнтаў.

Кволы энтузіязм тутэйшых наконт незалежнасці, напэўна, тлумачыцца праблемамі эканомікі. Прыкладна 90 працэнтаў бюджэту Новай Каледоніі фармуецца за кошт субсідый з метраполіі. Нівеляваўся і такі фактар, як комплекс непаўнавартасці перад суседзямі. У свой час — 1960–1970-я гады — канакі зайздросцілі абарыгенам на суседніх астравах, якія атрымалі правы на суверэнітэт. Час мінаў — і цяпер шмат хто ўжо не так эмацыйна ставіцца да адсутнасці ў канакаў дзяржаўнасці, у адрозненне ад жыхароў суседніх Тонга або Самоа.

Тым не менш, інтарэс да рэферэндуму 4 лістапада вельмі моцны. Па-першае, вынікі галасавання здольныя паўплываць на палітычны працэс у Францыі, дзе адміністрацыя Эмануэля Макрона можа інтэрпрэтаваць іх як асабістую перамогу. Макрон, нагадаем, падчас выбарчай кампаніі паслядоўна выступаў за тое, каб Новая Каледонія засталася ў складзе Францыі. Нездарма 4 лістапада ў Новую Каледонію прыляціць асабіста прэм'ер Эдуар Філіп.

Па-другое, няма сумневаў, што рэферэндум 4 лістапада выкарыстаюць каталонцы. Яны будуць намагацца эксплуатаваць яго ў якасці прававога прэцэдэнту. Маўляў, вось як павінна нармальная еўрапейская дзяржава рэагаваць на незалежніцкія аспірацыі рэгіёнаў — не падаўляць спробы правесці рэферэндум на гэты конт, а наадварот, спрыяць яго арганізацыі і быць гатовай завочна прызнаць яго вынікі.

Напэўна, падобныя каментары трэба чакаць і ад пракрамлёўскіх палітыкаў, якія будуць працягваць паралелі паміж Новай Каледоніяй і нефармальнымі данбаскімі рэспублікамі. У доўгатэрміновай перспектыве сапраўдныя вынікі рэферэндуму ў Новай Каледоніі непрадказальныя.

Нарэшце, нават прайграўшы 4 лістапада, канакі наўрад ці адмовяцца ад незалежніцкага праекту.



Каталікі суапраць пратэстантаў. Змова супраць англійскага і шатландскага караля Якаба І у 1605 годзе

Фота www.youtube.com

# Ксенафобія захапіла Брытанію

Алег НОВІКАЎ

**Брытанія 5 лістапада адзначае свята, якое першапачаткова мела выразны антыкаталіцкі сэнс. Цяперашнія ўрачыстасці сталі нагодай, каб выказаць трывогу з-за рэнесансу антыкаталіцкіх настрояў.**

Сама ідэя таго, што ў Брытаніі — мультыкультурнай свецкай дзяржаве — могуць гучаць антыкаталіцкія заклікі, падобная на трызненне. Лепшым прыкладам тут ёсць эвалюцыя свята 5 лістапада. Яно стыхійна паўстала ў 1605 годзе, калі стала вядома пра арышт групы каталікоў, якія планавалі ўзарваць будынак парламента з усімі прысутнымі там дэпутатамі і манархам. Лідара групы Гая Фокса затрымалі ледзь не ў апошні момант, каб пасля адправіць на шыбеніцу.

«Парахавая змова» — так увайшла апісаная падзея ў гісторыю — стала падставай для маштабнай антыкаталіцкай кампаніі. Каталіцызм быў у чарговы раз асуджаны як нейкая экстрэмісцкая секта, а ўсім каталіцкім святарам загадалі пакінуць Англію. Пазней спецыяльным актам «папістам» забаранілі займаць англійскі трон (дзейнасць дакумента скасавалі толькі ў 2013 годзе). У той час стала модным спісваць на каталікоў любы негатыў, кшталту арганізацыі вялікага пажару ў Лондане ў 1688 годзе. Каталікоў пазбавілі любых грамадзянскіх правоў.

Свята 5 лістапада адыгрывала важную ролю для падтрымкі ксенафобскага ўгару. Адным з рытуалаў свята быў здзек з каталіцкіх святых і спальванне пудзіла Папы Рымскага. З часам палітычны складнік свята стаў амаль не заўважным. Цяпер 5 лістапада — хутчэй сямейны фэст, падчас якога трэба запускаць феерверкі і паліць вогнішчы.

Змянілася і стаўленне да Гая Фокса. Паступова гэтую фігуру пачалі трактаваць так, як яна выяўленая ў коміксе «V — значыць вендэта» і яго экранізацыі. Там Гай Фокс выступае ў вобразе нейкага высакароднага рэвалюцыянера, які кідае выклік дыктатуры. Маска Гая Фокса ператварылася ў адзін з сімвалаў антыглабалісцкага руху. Паводле апытання BBC, у 2010 годзе Гай Фокс заняў 22-е месца ў спісе самых вялікіх брытанцаў.

Відавочна, што перагляд канцэпту 5 лістапада не мог адбыцца без агульнай рэабілітацыі каталікоў у брытанскім грамадстве. Прыкладна да 1850 года яны атрымалі роўныя грамадзянскія і палітычныя правы з пратэстантамі, а ў брытанскую сталіцу прыехаў прадстаўнік Ватыкана. Праўда, антыкаталіцкія забабоны сярод англічан працягвалі мець масавы характар аж да Другой сусветнай. Пасля вайны яны захаваліся выключна ў Паўночнай Ірландыі — на глебе супрацьстаяння радыкалаў з каталіцкай і пратэстанцкай грамадаў. За межамі Белфаста гэта пытанне мала каго цікавіла. Каталікі ў свой час займалі такія высокія пасады, як дырэктар BBC, сакратар кабінету міністраў, дэкан Оксфардскага ўніверсітэта... Экс-прэм'ер Тоні Блэр, пасля таго, як пакінуў Даўнінг-Стрыт, 10, прыняў каталіцызм.

І вось, калі верыць некатаным брытанскім СМІ, часы «Парахавой змовы» вяртаюцца. Усё часцей менеджары патрабуюць ад служачых-каталікоў не насіць на працы крыж. Усё часцей публічныя асобы дазваляюць сабе антыкаталіцкія заявы або жарты. Часам каталіцкія арганізацыі паспяваюць рэагаваць. Напрыклад, яны не прайшлі міма слоў Эндзі Кера, аднаго з лідараў лейбарысцкай партыі Шатландыі. На партыйнай канферэнцыі ён пажартаваў наконт дэлегатаў-каталікоў: маўляў, нельга патрабаваць праўды ад людзей, якія хрысцяцца. У выніку скандалу Кер выбачыўся.

Калі верыць брытанскаму часопісу «Prospect», супрацьстаянне каталікоў і пратэстантаў сёння таксама вяртаецца на вуліцы. У той жа Шатландыі падлеткі-пратэстанты часам атакуюць аднагодкаў з каталіцкіх кварталаў. На вачах узмацнілася рэлігійная ідэнтычнасць груповак футбольных фанатаў. Нагадаем, што шмат клубаў у Шатландыі — напрыклад, славуты «Celtic» з Глазга, — былі заснаваныя святарамі для развіцця чальцоў каталіцкай грамады.

Каталіцкія арганізацыі пагаджаюцца з тым, што выхадкі супраць «папістаў» — хутчэй, фрагмент больш маштабнай ксенафобскай хвалі, якая ахапіла брытанскае грамадства. Статыстыка антыкаталіцкіх праяў расце сінхронна росту антысемітызму або ісламафобіі. Пры гэтым каталікі не з'яўляюцца асноўнай мішэнню англічан-нацыяналістаў. Цяжка ўявіць, каб каталікоў параўноўвалі з рабаўнікамі банкаў. Такое параўнанне Борыс Джонсан, экс-дырэктар брытанскага МЗС, не так даўно зрабіў на адрас мусульманак, якія носяць бурку (традыцыйную ісламскую жаночую вопратку).

З іншага боку, нельга адмаўляць — патэнцыял для росту антыкаталіцкіх настрояў існуе. Працэс Brexit выклікаў абвастрэнне адносінаў Лондана з Шатландыяй і Паўночнай Ірландыяй, дзе шмат хто хоча застацца ў складзе ЕС. Падчас спрэчак стала актуальным пытанне: што такое Англія і хто такія англічане? Якія каштоўнасці ім уласцівыя, а якія не? Ці можа англійскі секулярызм, напрыклад, мірыцца з каталікамі, якія лічаць аборты злачынствам?

Аднак найбольшую пагрозу для каталікоў, напэўна, уяўляюць аматары Brexit. Лідары руху за выхад Брытаніі з ЕС усё часцей называюць Brexit «новай рэфармацыяй». Для іх Еўрасаюз — канспіралагічны праект каталікоў, да якіх належалі такія бацькі еўраінтэграцыі, як французы Жан Манэ і Робер Шуман, немец Конрад Адэнаўэр і іншыя. Нават у сцягу ЕС яны пабачылі падабенства са сцягам Святой Марыі.

Такі непрыемны трэнд, які, безумоўна, трошкі азмрочвае сапраўды вясёлае і народнае свята 5 лістапада.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Уладзімір Зяленскі

Вядомы ўкраінскі шоўмэн пару гадоў таму запусціў серыял «Слуга народа» пра простага настаўніка, які стаў прэзідэнтам і на новай пасадзе спрабуе абараняць інтарэсы людзей. На хвалі поспеху «Слугі народа» ўсё больш украінцаў пачалі заклікаць Зяленскага зрабіць гэтак жа, як герой яго серыяла, — паспрабаваць заняць пасаду кіраўніка дзяржавы.

Зяленскі доўга думаў і нарэшце наважыўся. У межах шоў 27 кастрычніка ён даў зразумець аўдыторыі, што гатовы стаць кандыдатам на пасаду кіраўніка Украіны. Пры гэтым само вылучэнне было абстаўлена іранічна. Рашэнне аб удзеле Зяленскага ў выбарчай кампаніі прынялі прысутныя гледачы, якія галасавалі «за».

Нягледзячы на вясёлы антураж, Зяленскі мае нядрэнныя шанцы. Апошні замер настрояў украінскіх выбаршчыкаў дае яму 9,9 працэнта падтрымкі. Гэта другі вынік сярод кандыдатаў. Ад Юліі Цімашэнка, лідара гонкі, артыста аддзяляюць усяго 5 працэнтаў. Ён таксама абыходзіць цяперашняга прэзідэнта Пятра Парашэнку, у якога 8,9 працэнта. Нельга таксама забывацца, што Зяленскі выступае на канале алігарха Ігара Каламойскага, без згоды і гарантый грашовай падтрымкі якога наўрад ці адважыўся б на такі крок.

Праўда, ёсць у Зяленскага і мінусы. Акрамя адсутнасці выразнай ідэалогіі, артыст мае вельмі ненадзейны электарат. Яго, як правіла, падтрымлівае моладзь, якая на выбары не ходзіць.

### Моніка Ярузэльская



Дачка маршала Войцэха Ярузэльскага, які ўзначальваў Польшчу падчас ваеннага становішча 1981–1983 года, прыйшла ў вялікую палітыку, калі стала дэпутатам сталічнага муніцыпалітэта па спісах партыі «Саюз левых дэмакратаў» (SLD).

Поспех Ярузэльскай, якая, дарэчы мае дыплом філолага, многіх здзівіў, паколькі звычайна варшавяне галасуюць за ліберлаў. Але значна больш здзівілі першыя інтэрв'ю і заявы дэпутата. Аказалася, што ў пані Ярузэльскай цалкам сабе кансерватыўная праграма. Напрыклад, яна не падтрымлівае абсалютнага права жанчын на аборты, лічыць, што курсы рэлігіі павінны ў нейкім выглядзе прысутнічаць у школе, і наогул асцярожна ставіцца да таго, каб дзецям расказвалі пра сексуальныя меншасці. У выніку кіраўніцтва партыі дыстанцыявалася ад скандальных заяваў сваёй актывісткі.

З іншага боку, ёсць меркаванне, што кіраўніцтва SLD, хоць нібыта і крытыкуе Ярузэльскую, на самай ухваляе яе праграму. Маўляў, экс-камуністам вельмі патрэбная Ярузэльская, якая здольная дапамагчы прыцягнуць да SLD электарат з кансерватыўнымі поглядамі. Дарэчы, Лешак Мілер, адзін з лідараў «Саюза левых дэмакратаў», ужо заявіў пра тое, што менавіта Моніка павінна прадстаўляць партыю на прэзідэнцкіх выбарах 2020-га.

### Здэнек Гржыб



Новы мэр Прагі стаў героем «Пражскай вясны – 2». Менавіта так некаторыя СМІ называюць прыход 37-гадовага Гржыба на пасаду бургамістра сталіцы Чэхіі.

Чакаюць, што Гржыб прынясе ў чэшскую палітыку той жа дух свабоды, што і пражская вясна, паколькі прадстаўляе Партыю піратаў. «Піраты» — не толькі самая маладая чэшская партыя, але ж да таго яна ж пазіцыянуе сябе як антысістэмная палітсіла. Галоўная мэта Партыі піратаў — дэцэнтралізаваць дзяржаву на аснове прамой дэмакратыі з выкарыстаннем кампутарных тэхналогій. У верасні фракцыя Партыі піратаў прадставіла праект, які прадугледжвае легалізацыю каноплі для асабістага выкарыстання.

Нягледзячы на сваю пратэстную прыроду, Партыя піратаў карыстаецца папулярнасцю сярод часткі пражскага сярэдняга класа і моладзі. За кошт гэтай фракцыі пражанаў «піраты» і атрымалі ў пачатку кастрычніка на выбарах у ратушу 18 працэнтаў. Хаця пераможцамі на згаданых выбарах былі ліберлы, менавіта Партыя піратаў атрымалася ў выніку стварыць кааліцыю пад свайго кандыдата ў мэры.

«Нас чакаюць чатыры няпростыя года, нам ёсць чым заняцца. Мы — каманда матываваных людзей», — заявіў новы мэр, які, дарэчы, раней працаваў медыкам. Зрэшты, абяцанні бургамістра-пірата многія ўспрынялі скептычна. Партыя піратаў у кадравым і ідэалагічным планах — размытая структура, а яе чальцы не маюць адміністрацыйнага вопыту.

# Беларуская Праваслаўная Царква:

Таццяна ПРОЦЬКА

**1 лістапада ў Мінску расстралялі 11 кіраўнікоў і актывістаў Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы. Найбольш верагодна — у Курапатах.**

Ад амаль стогадовага перыяду бязвер'я і атэізму найбольш пацярпела нацыянальная свядомасць беларусаў. Адным з наступстваў яго стала стварэнне беларускай гісторыі, у якой рэлігійныя людзі наогул адсутнічаюць, быццам іх і не было. У развагі пра матывацыю гістарычных учынкаў, постаці герояў да сённяшняга часу не ўключаецца аспект рэлігійнага жыцця чалавека.



Епіскап Мелхіседэк (у цэнтры) з аднадумцамі ў Мінску (першая палова 1920-х гадоў). Справа — святар Антоній Кіркевіч

## Невядомыя старонкі

Жыццё беларускага духавенства ў ХХ стагоддзі найменш вядомае. Памяць часткі насельніцтва ўтрымлівае гратэскныя вобразы святароў, асабліва іерархаў, — як людзей, ніяк не звязаных з праблемамі штодзённага жыцця, не маючых матэрыяльных турбот. У сучасным выяўленні яшчэ горш: царкоўны іерарх — чалавек, які мае раскошу за кошт ахвяравання вернікаў. Каштоўнасці рэлігійнага чалавека — удзел у еўхарыстыі, споведзі, прычашчэнне, пост, малітва — пазбаўленыя публічнасці, у грамадскай думцы не з'яўляюцца сведчаннем станоўчых якасцяў.

Беларусам дасталася яшчэ адна дрэнная спадчына. Нас навучылі думаць, што беларускай царквы няма, яе ніколі не снавала. Быў польскі Касцёл, былі расійскія праваслаўныя, былі нейкія пратэстанты і секты. У савецкія часы пад гэтыя думкі падвялі ідэалагічны падмурак: беларусы — калі не ўсе атэісты, то масава няверуючыя.

Разам з тым, рэлігія як частка духоўнага жыцця чалавека і Царква як найбуйнейшы грамадскі інстытут былі і ёсць важнай часткай як беларускай гісторыі, так і сучаснага жыцця. Асабліва гэта тычыцца Праваслаўнай Царквы.

## Рэпрэсіі

Савецкая дзяржава вызначыла духавенства варожым класам, які падлягае знішчэнню, а Царкву — варожай арганізацыяй. Святароў пазбаўлялі элементарных сродкаў да існавання, яны былі бяспраўныя перад уладай. Людзі ў прыходах баяліся хадзіць у царкву:апасаліся кпінаў і абвінавачванняў у «цемры», хвяляваліся, што з верай у Бога не змогуць зрабіць кар'еру ў бязбожнай краіне, баяліся, што іх абвінавацяць у дапамозе варожым класам.

У цяжкім становішчы было вышэйшае духавенства. Знішчэнне ўплыву Праваслаўнай Расійскай Царквы (ПРЦ — такая была тады афіцыйная назва сучаснай РПЦ) савецкая дзяржава пачала з пазбаўлення Царквы сакральнага значэння і эканамічнай падтрымкі. Першы ўдар быў накіраваны на ліквідацыю інстытута манаства. Згодна з Дэкрэтам «Аб зямлі», манастыры пазбавіліся сродкаў да існавання, і яны не маглі аказваць матэрыяльную дапамогу ў правядзенні розных царкоўных мерапрыемстваў, забяспечваць царкоўную іерархію.

Савецкія ўлады загадалі праверыць («ці няма падману вернікаў») хрысціянскія рэліквіі, да якіх здзяйснялася паломніцтва. У лютым 1919 года наркамат юстыцыі РСФСР выдаў пастанову аб арганізацыі выкрыцця цудадзейных святых мошчаў. У жніўні 1920-га ён разаслаў выканкамам мясцовых саветаў цыркуляр аб ліквідацыі святых мошчаў з указаннем пазбягаць «усялякай нерашучасці і палавінчастасці пры правядзенні мерапрыемстваў». 21 жніўня 1920 года ў газеце «Звязда» пачалася серыя публікацый пад рубрыкай «Цемрашальства» — пра паказальны судовы працэс у Маскве над іераманахамі Дасіфеем і ігуменняй Серафімай, якія абаранялі ад знішчэння святыя мошчы Віленскіх пакутнікаў, нацыянальную беларускую царкоўную рэліквію.

Пазбаўленне матэрыяльнага дабрабыту, знішчэнне святыняў былі не апошнімі выпрабаваннямі. Пасля заканчэння працы Памеснага сабора Праваслаўная Расійская Царква сутыкнулася з праблемай легітымнасці царкоўнага кіравання. Гэтая праблема мела два бакі — дзяржаўны і царкоўны. Першы быў звязаны з рэгістрацыяй органаў царкоўнага кіравання дзяржавай, якая забяспечвала легальнае кіраванне прыходамі, другі быў абумоўлены выкананнем самім духавенствам рашэнняў Сабору. Ужо ў пачатку 1919 года ў рабоце органаў царкоўнага кіравання — Свяшчэннага Сінода і Вышэйшага Царкоўнага Савета — па розных прычынах прымалі ўдзел менш за палову членаў, абраных Памесным саборам. У 1921 годзе трохгадовы тэрмін іх працы наогул скончыўся, для абрання новых органаў кіравання павінен быў сабрацца чарговы Памесны сабор. Але ён скліканы не быў. Гэта выклікала новую хвалю незадаволенасці сярод іерархаў і духавенства, хто ўвядзення патрыяршаства, адноўленага ў 1917 годзе, не падтрымліваў або ставіўся да яго скептычна.

14 мая 1922 года царкоўныя «рэвалюцыянеры» выклалі сваё бачанне сітуацыі ў бальшавіцкай «Праўдзе», якая апублікавала «Заклік прадстаўнікоў групы прагрэсіўнага духавенства». Іх сталі называць абнаўленцамі.

У пачатку 1920-х да лідараў абнаўленчых руху належалі протаіерэй Увядзенскі, які выконваў ролю галоўнага ідэолага, епіскап Антанін (Граноўскі), былы обер-пракурор Сінода Уладзімір Львоў, прафесар Петраградскай духоўнай акадэміі Барыс Цытлінаў і іншыя. Рух абвясціў неабходнасць «дэмакратычных рэформаў», закліканых зблізіць праваслаўе з «рэвалюцыйным народам». Абнаўленскія рэформы прадугледжвалі спрашчэнне структур царкоўнага кіравання, узрастанне ролі прыхадской грамадскасці, дазвол епіскапам жаніцца, а святарам уступаць у шлюб больш за адзін раз, скарачэнне абавязковых службаў, увядзенне рускай мовы ў набажэнства, увядзенне грыгарыянскага календара, адмену манаства і іншае.

Да 1922 года абнаўленцы ўстрымліваліся ад размежавання з ПРЦ на чале з патрыярхам Ціханам. Вясной 1922 года размежаванне адбылося, і абнаўленцы былі абвешчаныя раскольнікамі.

## Як жа без чэкістаў?

АДПУ пачаў працу з лідарамі і ўдзельнікамі абнаўленчага руху, прыцягваючы іх да асведамляльнай дзейнасці, заахвочваючы да збору матэрыялаў на прыхільнікаў патрыярха Ціхана.

Савецкі ўрад афіцыйна падтрымаў абнаўленчыя арганізацыі, зарэгістраваў іх орган кіравання — Вышэйшае царкоўнае ўпраўленне (ВЦУ). З 1922 па 1926 гады абнаўленчая царква была адзінай афіцыйна прызнанай уладамі праваслаўнай царкоўнай арганізацыяй з легальнай структурай кіравання. Абнаўленцы сталі афіцыйна называць сябе таксама, як і Царква на чале з патрыярхам Ціханам — Праваслаўнай Расійскай Царквой. Пазней найменне абнаўленцаў трансфармавалася ў Праваслаўную царкву ў СССР.

Каб кіраўніцтва ПРЦ не перашкаджала рабоце лаяльных да савецкай улады структур, чэкісты адвезлі патрыярха Ціхана ў Данскі манастыр у Маскве, дзе ён знаходзіўся ў строгай ізаляцыі. Для вырашэння царкоўных праблем у спецслужбах былі створаныя спецыяльныя аддзелы, якія займаліся выпрацоўкай палітыкі вынішчэння веры, царквы як арганізацыі і духавенства як варожага класа.

## Беларусь: на шляху да аўтаноміі

У пачатку 1920-х духавенства епархій, якія знаходзіліся на тагачаснай тэрыторыі Беларусі (іх у ПРЦ называлі паўночна-заходнімі), распачало працэс стварэння Беларускай Праваслаўнай Царквы (БПЦ). Кіраваў гэтым епіскап Мінскі і Слуцкі Мелхіседэк (Паеўскі). Арганізацыйнай формай для БПЦ спачатку была абраная царкоўная аўтаномія.

Аўтаномія — досыць распаўсюджаная з'ява ў гісторыі праваслаўя. Пад ёй разумеецца Царква, якая дзейнічае на тэрыторыі самастойнай дзяржавы, валодае шырокай (але не поўнай) самастойнасцю ад так званай кірыярхальнай Царквы. Падставай для абвяшчэння аўтаноміі служылі розныя фактары — часцей за ўсё знаходжанне Царквы па-за межамі дзяржавы, у якой знаходзілася кірыярхальная Царква, а таксама геаграфічная аддаленасць і этнічная своеасаблівасць. Залежнасць аўтаномнай Царквы ад кірыярхальнай вызначаная так: прадстаяцель (кіраўнік) аўтаномнай Царквы прызначаецца прадстаяцелем кірыярхальнай Царквы; статут аўтаномнай Царквы зацвярджаецца кірыярхальнай; аўтаномная Царква атрымлівае ад кірыярхальнай міра — асвечаны араматычны алей, які выкарыстоўваецца ў сакраманце канфірмацыі); прадстаяцель аўтаномнай Царквы падсудны яе вышэйшай судовай інстанцыі.

Усе неабходныя фармальныя ўмовы для абвяшчэння царкоўнай аўтаноміі напачатку 1920-х гадоў былі. Беларусь была дэ-юрэ самастойнай дзяржавай, тэрытарыяльна, палітычна і этнічна была адасобленая ад Расіі. Царкоўная аўтаномія магла вырашаць многія праблемы праваслаўнай царквы на месцы, без кансультацый з цэнтральнай царкоўнай уладай, якая да сярэдзіны 1922 года ўвогуле невядома дзе знаходзілася.

У канцы мая 1922 года старшыня ДПУ Беларусі Ольскі сустрэўся з епіскапам Мелхіседэкам і перадаў яму «запрашэнне» ў Маскву ў Сакрэтны аддзел АДПУ для перамоваў. Мелхіседэк прыняў прапанову, як пісаў сакратар КПБ Багуцкі Сталіну, «доброотчетливо».

Епіскап Мелхіседэк не быў «кар'ерным» епіскапам, хоць і меў на той час дастаткова пашаны. Уладыка быў лагодны, спакойна выслухоўваў прапановы, не спяшаўся з адказам, ветлівы, мова ў яго была павольнай, інтэлігентнай і добразычлівай. Ён не хітраваў, не хлусіў, не спрабаваў выкручвацца, не быў цвердалобы, не навязваў сваёй думкі. Ён заўсёды спадзяваўся на Божую дапамогу, і гэта надавала яго прамовам упэўненасць. Мелхіседэку ўдавалася, як пісаў Багуцкі, «перажываць усё акупацыі і ладзіць з усімі ўрадамі». І партыйныя ўлады, і чэкісты адзначалі, што епіскап быў «вялікі дыпламат».

## Складаная Масква

У сярэдзіне чэрвеня 1922 года біскуп Мелхіседэк прыбыў у Маскву. Падзеі, якія адбываліся тады, яго збянтэжылі, яснасці ў разуменні, што адбываецца, не дадалося. Патрыярх Ціхан знаходзіўся пад хатнім арыштам, і ў Маскве казалі, што яго, хутчэй за ўсё, расстраляюць. Мітрапаліт Сергій (будучы новы патрыярх), сумесна з двума архіепіскамі публічна прызналі абнаўленчае ВЦУ адзінай кананічнай уладай: прызнанне яны аформілі ў так званым «Мемарандуме трох».

Мітрапаліт Сергій удзельнічаў у хіратоніі архімандрыта Мелхіседэка ў епіскапа, быў для яго, як і для ўсяго рускага духавенства, багаслоўскім аўтарытэтам. Ігнараваць меркаванне Сергія для яго было складана. Мелхіседэк прыняў пазіцыю Сергія, але (тым не менш!) у абнаўленскі раскол не ўступіў.

Для праваслаўнага верніка ўдзел у расколе з'яўляецца вялікім злачынствам. Пазней мітрапаліт Сергій прынёс пакаянне патрыярху Ціхану за ўдзел у абнаўленстве. Епіскапу Мелхіседэку каяцца не было ў чым.

У Маскве Мелхіседэк сустрэўся і з кіраўніцтвам АДПУ. Дакументальныя сведчанні гэтай сустрэчы невядомыя, але відавочна, што чэкісты прапанавалі легалізацыю БПЦ у выпадку падтрымкі ВЦУ.

Па вяртанні ў Мінск Мелхіседэк прапанаваў, як найлепшае выйсце, мець сама-

# перарваны шлях да аўтакефаліі

стойнасць і незалежнасць ад таго, што адбываецца ў Маскве. Першым крокам да незалежнасці епіскап вызначыў аўтаномію БПЦ у складзе ПРЦ.

## Аўтаномія

Слова «аўтаномія» было дастаткова папулярнае ў асяроддзі беларускай як партыйнай, так і творчай інтэлігенцыі і, натуральна, сярод вернікаў. У асноўным, у спалучэнні са словам «нацыянальная». Нацыянальная культурная аўтаномія як адна з магчымых мадэляў дзяржаўнага ладу Беларусі ў складзе Расійскай Федэрацыі прадугледжвала магчымасць для беларусаў самастойна вырашаць пытанні адукацыі, развіцця нацыянальнай мовы, іншых аспектаў культуры і эканомікі. Мелхіседэк меў усе падставы меркаваць, што абвяшчэнне аўтаноміі БПЦ будзе падтрымана прыхільнікамі нацыянальна-культурнай аўтаноміі ў дзяржаўным і партыйным кіраўніцтве БССР.

Калі б палітычнаму кіраўніцтву Беларусі ўдалося б атрымаць пэўную самастойнасць у вырашэнні ўнутраных праблем, перадаўшы рашэнне знешнепалітычных задач Маскве, то, лічыў Уладыка, аўтаномная праваслаўная царква ў Беларусі атрымае неабходныя ўмовы для развіцця: будзе самастойнай, незалежнай ад дзяржавы, будзе будаваць сваё жыццё па запаветах Хрыстовых.

17 чэрвеня 1922 года, калі епіскап Мелхіседэк яшчэ знаходзіўся ў Маскве, у цэнтральныя органы КП(б)Б паступіў дакумент, аўтары якога прасілі дазволіць яго распаўсюд. Ён быў напісаны на беларускай мове, падпісаны вядомымі і паважанымі ў Беларусі людзьмі, сярод якіх былі протаіерэй Стэфан Кульчыцкі, протаіерэй Уладзімір Біруля, пісьменнік і выкладчык геалогіі і мінералогіі Міхаіл Грамыка, грамадскі дзеяч і працаўнік Наркамасветы Сцяпан Некрашэвіч, дацэнт кафедры рускай гісторыі Беларускага ўніверсітэта Аляксандр Савіч, Якуб Колас і іншыя. Дакумент называўся «Заклік да праваслаўных беларусаў».

У ім, у прыватнасці, гаварылася: «У дні вялікага дзяржаўнага перавароту і рэвалюцыйнага зруху ў Расіі, сярод шуму і разбурэння ваенных бур, які пранёсся над нашым краем, нарадзілася свабодная Беларусь. Шматпакутны народ доўгага гістарычнага існавання амаль не ведаў долі, апрача долі раба, меў мужнасць услых усім заявіць, што ён хоча жыць свабодна, падобна іншым народам, працаваць на сваёй зямлі, ствараць уласнае шчасце і дабрабыт. Так палітычна самавызначалася Беларусь. Рост народнай самасвядомасці, які выказаўся ў акце абвяшчэння Беларускай Савецкай Рэспублікі, павінен быў рана ці позна адбіцца важнымі наступствамі і ў галіне царкоўнага жыцця. Чуйна сочачы за лёсам нацыянальнай беларускай ідэі, царква чакала таго моманту, калі спустошаная варожымі нашэсцямі краіна ўздыхне свабодна і прыступіць да культурнай працы.

Момант гэты наступіў: крывавы прывід вайны, відаць, разышоўся і беларускі народ уступае ў паласу мірнага культурнага будаўніцтва. А таму намі, праваслаўнымі беларусамі, адданымі царкве і не забыўшымі ўрокаў гісторыі, павінна быць зроблена тое, што паказваецца самім ходам падзей і ўяўляецца наспеўшым пытаннем нашага мясцовага жыцця. Беларуская царква павінна быць прызнанай кіравацца ў сваім унутраным жыцці на пачатках аўтаноміі згодна царкоўных правіл і канонаў... Праваслаўная царква ў Беларусі менавіта таму, што яна беларуская, жадае з гэтага часу ісці ўласным шляхам...»

Партыйная ўлада публікацыю закліку не дазволіла.

Але ўлетку 1922 года была абвешчаная аўтаномія БПЦ, абранае яе кіраўніцтва. Епіскап Мелхіседэк стаў мітрапалітам Беларускім і Мінскім. На чале аўтаноміі стала Царкоўнае Упраўленне Беларусі (ЦУБ) у складзе старшыні Мелхіседэка, мітрапаліта Беларускага і Мінскага і членаў: протаіерэя Іаана Язвіцкага, протаіерэя Аляксея Касцючэнкі, протаіерэя Стэфана Кульчыцкага, протаіерэя Уладзіміра Бірулі, псаломшчыка Х. Заторскага, свецкага чалавека Уладзіміра Сакалова, сакратара протаіерэя Антонія Кіркевіча.



8/VII 22 г.

В. Секретно

В ПОЛИТБЮРО Ц.К. Р.К.П. 9

тов. Сталину.

Копия – ГПУ тов. УНШЛИХТУ.

В связи с вызовом в ГПУ для переговоров о возможном использовании в борьбе с ТИХОНОМ и реакционным Духовенством – Епископа Минского и Туровского – МЕЛХИСЕДЕКА, – ЦБ.КПБ поручает тов. КОРЕЙВО /Начальнику Секретного Отделения ГПУБЕЛ/ – получить от Вас дальнейшие указания какую линию в дальнейшем проводить здесь нам.–

Мы полагаем, что МЕЛХИСЕДЕКА при умелом подходе можно использовать в борьбе с реакционным духовенством. Нужно только к нему подойти осторожно, ибо МЕЛХИСЕДЕК большой дипломат переживший все оккупации и ладивший со всеми Правительствами.–

В данное время МЕЛХИСЕДЕК старается везде подчеркнуть свою лояльность по отношению к Советской Власти. В вопросе из"ятия ценностей МЕЛХИСЕДЕК занял сразу твердую позицию за сдачу ценностей, издав по сему поводу воззвание к верующим. Остальное Минское Духовенство более реакционно и консервативно чем МЕЛХИСЕДЕК. Минские Попы, где еще до войны велась большая борьба с католической церковью подбирались более развитые и черносотенные люди. В данное время находясь на рубеже Республики, они все еще предполагают возможность конфликта и нашего ухода из Белоруссии, а потому сразу трудно их втянуть в борьбу.

Группой /незначительной/ Белорусских попов /[redacted]/, а также некоторыми Белорусскими Общественниками поднят вопрос об автономии / не автокефалии/ Белорусской церкви. Из переговоров, которые велись с МЕЛХИСЕДЕКОМ по сему вопросу выяснилось, что МЕЛХИСЕДЕК особого значения данному вопросу не

## Што далей?

Пра тое, як адбывалася стварэнне аўтаноміі, што было далей, выкладзена ў дакладзе мітрапаліта Беларускага і Мінскага Мелхіседэка Патрыярху Ціхану ад 15 снежня 1923 года. З тэксту даклада вынікае, што мітрапаліт Мелхіседэк нездарма называўся чэкістамі вялікім дыпламатам.

Мітрапаліт, у прыватнасці, пісаў: «...Пытанне аб аўтаноміі Беларускай царквы — не новае. Яно не раз падымалася ў заходнерускіх царкоўных і грамадскіх колах. Можна сказаць, што яно даўно ўжо наспела, і калі не ўздымалася афіцыйна ў поўнай меры, то толькі таму, што ўмовы жыцця Беларусі ў апошнія гады часта змяняліся і ўскладнялі зносіны з вышэйшай царкоўнай Уладай, не далі магчымасці правесці дазвол яго ў належнай паслядоўнасці і парадку.

Настаў 1922 год, калі Праваслаўная Царква Расійская папушчэннем Божым, уступіла ў паласу цяжкай смуты і падзелу. Пазбаўленая свайго кіраўніка, раздзіраемая адсутнасцю ўнутранага свету і яднання, яна перажывала ўзмоцнены крызіс на ўсёй прасторы сваёй. У Беларусі гэты крызіс адчуваўся вастрэй, чым дзе б там ні было...»

Мітрапаліт Мелхіседэк наракаў, што ў краіне ўзмацнілася прапаганда каталіцызму і уніяцтва — у той час, як праваслаўная царква перажывала раздоры. «Прапаганда гэтая прыняла самыя шырокія памеры, прасты народ завагаўся. Небяспека становішча стала відавочная».

«Пасля неаднаразовага і стараннага абмеркавання становішча, было цвёрда пастаўлена на першую чаргу пытанне аб аўтаноміі Беларускай царквы, як найлепшым сродку, які можа паслужыць для вырашэння патрэб дадзенага моманту царкоўна-гістарычнага жыцця», — пісаў Мелхіседэк.

«Асаблівае грамадскае становішча Беларусі як незалежнай рэспублікі, якая ўваходзіць у склад федэрацыі (тут ёсць свой ЦВК, свой Саўнаркам, у Маскве маецца беларускае прадстаўніцтва пры РСФСР і г.д.), дае магчымасць ажыццяўлення гэтага праекта, якое не супярэчыць і царкоўным канонам. У аснову праекта ляглі два палажэнні: 1) імкненне захаваць, шляхам аўтаноміі, законную іерархію і 2) аказаць супрацьдзеянне прапагандзе, якая прыняла пагрозлівыя памеры», — азначаў ён.

Сам факт абвяшчэння Беларускай Мітраполіі здзейсніўся 10/23 ліпеня 1922 года ў Мінскім Кафедральным Саборы прад Боскай Літургіяй пры велізарнай колькасці людзей, якія маліліся. Вернікі запоўнілі да цеснаты не толькі шырокі сабор, але і ўсю прылеглую плошчу, пры ўдзеле ўсяго гарадскога і прадстаўнікоў епархіяльнага духавенства.

**Першыя беларускія епіскапы**



Філарэт (Раменскі)



Іаан (Пашын)




Епіскап Мікалай (Шамяціла)

Пасля звычайнай архіерэйскай сустрэчы архіерэй спыніўся на амбоне сярод царквы. Кафедральны протаіерэй, прыняўшы дабраславенне, з салеі прачытаў голасна акт наступнага зместу:

«У імя Айца, і Сына, і Духа Святога. Праваслаўны клір і свецкія былой Мінскай епархіі, свята захоўваючы догмат аб адзінстве Царквы і іншыя догматы нашай святой веры, захоўваючы кананічную сувязь з законнымі святарскімі Праваслаўнай Царквы Расійскай, і кіруючыся не крывадушным, а гарачым імкненнем да дабра праваслаўнай царквы і ўмацаванню праваслаўнай веры, пастанавілі абвясціць праваслаўную царкву, якая знаходзіцца ў межах незалежнай Савецкай Рэспублікі Беларусі, самакіраванай у справах мясцовага значэння (аўтаномнай). На цяперашнюю пастанову прасіць у свой час дабраславенне Вышэйшай Законнай Царкоўнай Улады, ад якой будзе залежаць таксама і дакладнае ўказанне межаў і ўмоў такога самакіравання на будучыню. Аднадушна і аднагалосна прасіць архіпастыр нашага Праасвяшчэннейшага Мелхіседэка, епіскапа Мінскага і Тураўскага, прыняць з гэтага часу найменне «Мітрапаліта Беларускага і Мінскага», як бачны выраз абвешчанага цяпер самакіравання Беларускай Царквы ў справах унутранага характару, а таксама прасіць яго заклапаціцца больш хуткім аднаўленнем біскупскіх кафедраў у Беларусі ў горадзе Слуцку, старажытным Тураве, Бабруйску і Барысаве».

Пісьмовага адказу на свой даклад мітрапаліт Мелхіседэк не атрымаў. Сярод расійскага вышэйшага духавенства на тыя часы не было прыхільнікаў утварэння самастойнай Беларускай Праваслаўнай Царквы. Мелхіседэка сталі вінаваціць «у самачыне», ганарлівасці і нават абнаўленстве.

## Шлях да аўтакефаліі?

З пункту гледжання савецкага заканадаўства — як агульнасаюзнага, так і беларускага, — мітрапаліт Мелхіседэк і ўзначальваемае ім Упраўленне былі абсалютна законныя і маглі дзейнічаць. Легальнасць дазваляла сфарміраваць на базе аўтаноміі паўнавартасную мітраполію. І хоць тэрыторыя Беларусі ў гэты перыяд была невялікая ў параўнанні з аналагічнымі ўтварэннямі ў Расіі, мітрапаліт Мелхіседэк звярнуўся ў абнаўленчы В.Ц.У. па дазвол на хіратонію трох новых епіскапаў. Увесну дазвол на хіратоніі быў атрыманы. Для ўдзелу ў іх у Мінск былі запрошаныя архіерэі «дараскольнага перыяду», — гэта значыць, законныя і з пункту гледжання сучаснага царкоўнага права. Гэта былі два вікарных епіскапа са Смаленскай епархіі — Венедыкт (Алентаў) і Феафан (Бярозкін). Абодва лічыліся абнаўленцамі, што не выклікала ні падазрэнняў, ні нараканняў з боку беларускіх спецслужбаў.

25 сакавіка (7 красавіка) 1925 года ва ўзросце 60-ці гадоў Патрыярх Ціхан памёр, як абвяшчалася, ад сардэчнага прыступу. У ПРЦ пачаўся перыяд поўнага безуладдзя. Афіцыйнае рашэнне па пытанні ўтварэння Аўтаномнай Беларускай мітраполіі Патрыярхам Ціханам так і не было прынятае. БПЦ і да сёння не мае статуса аўтаноміі ў складзе РПЦ.

Працэс беларусізацыі, які пашырыўся ў БССР у сярэдзіне 1920-х гадоў, вымусіў тагачаснае партыйна-савецкае кіраўніцтва па-іншаму паставіцца да ролі Царквы ў беларускай дзяржаве. А беларускае духавенства, не чакаючы рашэння Масквы, прыняло рашэнне аб падрыхтоўцы да аўтакефаліі БПЦ.

# «Галеча вядзе да рэвалюцыі»

**Па гарызанталі:** 2. «... без незалежнасці, што банкаўскі кошт без укладу» (А. Васільеў). 6. «Меч, агонь знішчалі край:\\ З двух бакоў «айцы» дубінкай\\ Заганялі нас у ...». З паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка». 7. Вялікі гістарычны перыяд. 8. «Кожны паспяховы ... называюць рэвалюцыяй, а кожны няўдачны — мяцяжом» (Д. Прыстлі). 9. «Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя адкінула Расію на некалькі стагоддзяў назад: сялян — у часы Пятра Першага, «баяр» — у часы Івана Жахлівага. А некаторых наогул у адкрыты ... выкінула» (У. Буткоў). 10. «... жоўтых кляновых лістоў\\ Мкнуцца восень схапіць за шыю». З верша У. Дубоўкі «... жоўтых кляновых лістоў». 13. Снегавая хатка ў канадскіх эскімосаў. 15. Нізкі жаночы або дзіцячы голас. 17. Мірнае, шчаслівае існаванне (пераноснае, іранічнае). 20. «... вядзе да рэвалюцыі, а рэвалюцыя — да галечы» (В. Гюго). 22. «Руская ... паканчыла з Расіяй як часткай Еўропы» (П. Савіцкі). 23. «Пры рэвалюцыях, як пры марскіх бурах; усё, што мае вялікую вагу, ідзе на ..., а лёгкаважнае выносіцца на паверхню вады» (А. Бальзак). 24. Літара гістарычнай кірыліцы і глаголіцы. 25. «Глыбокі лістапад у Белавежы.\\ Шуміць ... пушчы векавой». З верша А. Куляшова «Глыбокі лістапад у Белавежы».

**Па вертыкалі:** 1. Рэакцыйна-шавіністычнае выступленне супраць якой-небудзь часткі насельніцтва, што суправаджаецца забойствамі, грабяжамі. 2. Апісанне чаго-небудзь у агульных рысах. 3. Настольная папка для папер. 4. Асобны чалавек у грамадстве. 5. «За сямнаццатым годам адразу ідзе ... сёмы» (А. Давідовіч). 11. Чуллівасць — лепшы ... (прыказка). 12. «Сімвал Беларусі — гэта белы ...,\\ Сімвал дабрабыту — гэта чорны хлеб». З верша М. Курылы «Песня пра хлеб». 14. Старабеларуская назва месяца лістапада. 16. «Змагацца за волю — ...,\\ Змагацца за праўду — не страх!». З верша Л. Геніюш «Не прашу!». 18. «Рэвалюцыя — ёсць ..., узброены мячом» (В. Гюго). 19. Трапіў цвік пад ..., шыя — пад кулак (прыказка). 21. Чорна-шызыя ядомыя ягады.



**Адказы на крыжаванку «Добраму добрая памяць!» (НЧ №36 ад 5 кастрычніка):**

**Па гарызанталі:** 5. Гімн. 6. Алюр. 9. Твар. 10. Плод. 12. Пасеў. 15. Палута. 17. Памяць. 19. Кеглі. 21. Апіс. 22. Адрына. 23. Укос. 25. Максім. 27. Антон. 28. Нарыс. 29. Скрутак.

**Па вертыкалі:** 1. Ігнатка. 2. Дно. 3. Час. 4. Аркадзь. 7. Настаўнік. 8. Шляхцянка. 11. Бруха. 13. Сцяг. 14. Нёман. 16. Акадэмік. 17. Пісаніна. 18. Штандар. 20. Кастусь. 24. Дом. 26. Рак.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**




# «Калядны фэст» дапаможа маладым выканаўцам

**Традыцыйны «Калядны фэст» сёлета выйдзе за межы канцэртнага шоў. Арганізатары пачынаюць пошук новых талентаў, якім дапамогуць запісаць новыя песні, а таксама запросяць выступіць на самім фэсце!**

Да ўдзелу запрашаюцца гурты любой стылістыкі. Заяўкі прымаюцца да 25 лістапада ўключна на скрынку: kaladny.fest@gmail.com з пазнакай «Конкурс». У лісце павінна быць назва калектыву, кантактныя дадзеныя і спасылка на відэа выступу або студыйны запіс 1-3 песень. Пасля праслухоўвання арганізатары абяруць 10 найлепшых выканаўцаў, якія працягнуць барацьбу ў публічным галасаванні. Пераможца вызначыцца 18 снежня. У якасці прыза гурт запросяць выступіць на «Калядным фэсце» 25 снежня, а фонд «Вяртанне» прафінансуе студыйны запіс 1-2 трэкаў.

«Калядны фэст» сёлета пройдзе ўжо ў 12-ы раз. За час свайго існавання мерапрыемства стала чаканай падзеяй для ўсіх аматараў беларускай музыкі.

«Наш фэст паказвае сувязь сучаснасці з мінулым, — распавядаюць арганізатары. — Канцэптуальна ён не будзе асабліва адрозніваецца ад папярэдніх — як заўсёды, мы збіраем найбольш цікавыя гурты сярэднявечнай і фолк-музыкі».

Гледачоў чакаюць традыцыйныя сярэднявечныя і народныя танцы, шмат конкурсаў і падарункаў! Сёлета на фэсце выступяць «Стары Ольса», «Znich», «Irdorath», «Osimira», «Rokash».

Вядучы — лідар гурта «Стары Ольса» Зміцер Сасноўскі.

Першыя 100 наведвальнікаў атрымаюць CD Vicious Crusade ў падарунак!

Пачатак — 17:30.

**Паводле прэс-рэліза**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1047

Падпісана да друку 02.11.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.